# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзе[нь]
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газ[еты]"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

НАЙЛЕПШАЯ [РЭГІ]ЯНАЛЬНАЯ [ГАЗЕТ]А ГОДА [20]15

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

23 сакавіка 2018 года №12 (1195)





Змяненні ў руху цягнікоў

старонка 3

Прэм'ера спектакля па матывах кнігі Алексіевіч "Час Сэканд Хэнд"

старонка 18

Нямецкія эксперты расказалі, як адрадзіць вёску ў Беларусі

старонка 2

"Ахвяр гвалту, якія нічога не хочуць мяняць, не шкада"

старонка 20-21

# 25 сакавіка – 100 год БНР

## Віншуем чытачоў са святам і дорым паштоўку-выцінанку Вольгі Бабурынай з серыі "Мая гісторыя"

Маладзечанская мастачка Вольга Бабурына стварае беларускія выцінанкі. На вокладцы – паштоўка "Чорная вежа".

Артыкул, прысвечаны 100-годдзю БНР, чытайце на старонцы 19.




ISSN 1991–7155




# Што правядуць да 100-годдзя БНР у Вілейцы і Маладзечне

**25 сакавіка – сто год з дня ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Якія мерапрыемствы правядуць у Маладзечне і Вілейцы з гэтай нагоды?

Маладзечанскія грамадскія актывісты 24 сакавіка правядуць у артпрасторы "Наталь" святочны канцэрт спявачкі **Таццяны Грыневіч** (Мінск). Імпрэза адбудзецца пры падтрымцы кампаніі "Будзьма Беларусамі".

Канцэрт пачнецца ў 16:30 па адрасе: вуліца Касманаўтаў, 8-а. Уваход вольны.

Таксама ў гэты ж дзень ускладуць кветкі да помніка "Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі" ў гарадскім парку.

У Вілейцы на Партызанскай, 45-а сіламі грамадскіх актывістаў 24 сакавіка ў 18.00 адбудзецца канцэрт, віктарына, паказ фільма.

Таксама выдадуць паштоўкі, прысвечаныя дзеячам БНР, што нарадзіліся на Вілейшчыне. Гэта **Антон Аўсянік** і **Лявон Заяц**.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Адзначаць Міжнародны дзень тэатра

ВІЛЕЙКА

27 сакавіка ў Палацы культуры ў Вілейцы зладзяць тэатральны капуснік, прысвечаны Міжнароднаму дню тэатра.

У праграме паўдзельнічаюць творчыя калектывы палаца, артысты з Ілы і вілейскіх гімназій.

Палац запрашае да супрацоўніцтва дзіцячыя і дарослыя тэатральныя калектывы і выканаўцаў з гумарыстычнымі нумарамі.

Даведкі па тэлефонах 8(01771) **5-50-39, 5-44-90**.

Пачатак у **18:00**.

Аддзел інфармацыі.

## "Фарсаж" перамог на міжнародным танцавальным конкурсе

ВІЛЕЙКА

– Вырашылі скарыць адну з самых крутых сцэн Беларусі – Prime hall, – падзялілася кіраўнік калектыву **Алеся Раздзялоўская**.

У намінацыі "Вулічны накірунак" 18 сакавіка танцоркі "Фарсажу" атрымалі Дыплом другой ступені конкурсу-фестывалю "Новыя вяршыні-2018".

Штогод на фестываль прыязджаюць калектывы з Расіі, Польшчы, Казахстана, Літвы, Латвіі, Туркменістана.

Аксана ЯРАШОНАК

## Памёр журналіст Міхась Чарняўскі



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

МЯДЗЕЛ

**18 сакавіка памёр журналіст ветэран Вялікай Айчыннай вайны Міхаіл Трафімавіч Чарняўскі.**

Міхась Чарняўскі нарадзіўся ў 1925 годзе ў вёсцы Мікасецк на Мядзельшчыне. У 1944 годзе пайшоў у партызаны. Пасля вызвалення радзімы змагаўся з фашызмам на франтавой перадавой. Двойчы быў паранены.

Пасляваеннае сваё жыццё Міхась Чарняўскі звязаў з журналістыкай. Жыў у курортным пасёлку Нарач (Купа). Працаваў у раённым друку на Мядзельшчыне. Быў пазаштатным аўтарам "Рэгіянальнай газеты".

Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" выказвае шчырыя спачуванні сям'і і блізкім Міхаіла Трафімавіча.

Калектыў "Рэгіянальнай газеты".





**Мінулым летам дзякуючы Крывасельскаму сельвыканкаму, вілейскім мясцовым уладам і фінансавай падтрымцы Еўрасаюза на Вілейшчыне правялі свята "Юшка-фэст". Магчыма, сёлета ў межах новага праекта правядуць падобнае свята. Фота з архіва "Рэгіянальнай газеты".**

# Як адраджаюць вёску ў Германіі

## Нямецкія эксперты падзяліліся досведам з вілейскімі калегамі

ВІЛЕЙКА

**Ад 14 да 16 сакавіка ў Вілейцы былі эксперты з Германіі. Сумесна з Беларускім геаграфічным таварыствам і грамадскім аб'яднанне "ЗОВіК" нямецкія спецыялісты працавалі ў рамках праекта "Перыферызацыя сельскіх тэрыторый як выклік".**

### Праблема паміраючых вёсак знаёмая не толькі нам

Па словах старшыні грамадскага аб'яднання "ЗОВіК" **Таццяны Цітуленкі**, дадзены праект скіраваны на тое, каб жыццё ў беларускай вёсцы зрабіць больш прывабным і зручным. Фінансуе праект урад Германіі.

У межах праекта нямецкія партнёры прывозяць на Вілейшчыну тых спецыялістаў, якія дзеляцца досведам сваёй гаспадаркі з вяскоўцамі. Летась прыязджалі спецыялісты па экалагічным земляробстве і разам з жыхарамі Крывога Сяла садзілі агародніну.

У гэты раз на Вілейшчыну прыехалі **Керстан Крэчмар** і **Штэфан Гертнер**. Керстан Крэчмар – мэр муніцыпалітэта Глаўбург, што знаходзіцца у федэральнай зямлі Гесэн, недалёка ад Франкфурта-на-Майне. У муніцыпалітэце жыве крыху больш за тры тысячы чалавек. Амаль столькі ж як у вёсках Крывасельскага сельсавета, адзначае Таццяна Часлаўаўна. Пры гэтым там вельмі развітая інфраструктура.

– Нас здзівіла, што праблема паміраючай вёскі актуальная не толькі для Беларусі. У Германіі з ёй таксама сутыкаюцца. Керстан Кэрчмар расказваў нам простыя жыццёвыя гісторыі са свайго досведу працы мэра, – распавяла "Рэгіянальнай газеце" Таццяна Цітуленка. – Дзяліўся тым, што ён рабіў, каб людзі, у першую чаргу, моладзь, не з'язджалі з вёсак.

### Як фермер дапамог доктару

Керчмар прыгадаў, як з муніцыпалітэта хацеў з'ехаць малады доктар. У горадзе ён бачыў больш магчымасцяў для сябе. А тут у маладога спецыяліста не было грошай, каб набыць неабходнае памяшканне для прыёму хворых. Тады мэр запрасіў вясковага фермера, што меў грошы, і на выгадных умовах прапанаваў яму дапамагчы маладому доктару набыць памяшканне.

Фермер пагадзіўся. У выніку ён уклаў грошы ў добрую справу, малады спецыяліст займеў сваё памяшканне, у хворых з'явіўся пастаянны доктар. Больш за тое, у вёску прыехалі яшчэ два доктары.

Выступоўца адзначыў, што цяпер у Германіі працуюць над тым, каб у кожнай вёсцы знайсці сваю "фішку" і гэтым прывабіць сюды кваліфікаваных спецыялістаў, маладыя сем'і, турыстаў.

Штэфан Гертнер – навуковец з інстытута "Работа і тэхніка" падзяліўся дадзенымі розных сацапытанняў, якія праводзяць у сельскай мясцовасці ў Германіі, расказаў, як даследуюць сельскія тэрыторыі.

У адзін з дзён нямецкіх экспертаў на семінары ў Вілейцы слухалі старшыні сельсаветаў Вілейшчыны. Кожны старшыня ўзяў з сабой па адным вяскоўцу.

– Мы папярэджвалі, што неабавязкова браць свайго намесніка, – кажа Таццяна Часлаўаўна. – Варта было ўзяць актыўнага чалавека, які можа нешта з пачутага ўвасобіць у сябе ў вёсцы. Усяго сабралася больш за сорак чалавек.

Вядома, не ўсё з пачутага можна ўвасобіць у вёсках Вілейшчыны, лічыць Таццяна Цітуленка. Але, магчыма, людзі адчуюць нейкі штуршок, загарацца ідэяй.

### Вяскоўцам не хапае цырульніка

У сераду ў Крывым Сяле працавалі не толькі нямецкія спікеры. Перад вяскоўцамі выступіў старшыня фонду "Садзейнічанне развіццю сельскіх тэрыторый" **Сяргей Тарасюк**. Ён спытаў прысутных пра тое, чаго ім не хапае ў вёсцы, і атрымаў канкрэтныя адказы. Некаторыя пажадалі, каб у вёсцы быў свой цырульнік – чалавек, які б працаваў тут пастаянна, а не прыязджаў з Вілейкі раз на тыдзень на некалькі гадзін.

**Знайшліся ахвотныя займацца саломапляценнем і прадаваць сувеніры. Прагучала думка пра тое, што можна было б зладзіць які-небудзь рыбны фестываль. У межах сельсавета ёсць прыватныя прадпрымальнікі, якія гадуюць рыбу.**

– Нездарма для такіх міжнародных праектаў пілотнай тэрыторыяй мы не першы раз абіраем Крывасельскі сельсавет, – кажа Таццяна Цітуленка. – Тут вельмі ініцыятыўны старшыня – **Ірына Супрановіч**. Яна ўмее падтрымліваць у сваіх вяскоўцаў цікавасць і ініцыятыву. А то, ведаеце, як бывае: людзі паслухаюць нешта, загарацца ідэяй, а назаўтра "перагараць".

Аксана ЯРАШОНАК.

# Змяненні ў курсіраванні цягнікоў міжнародных і міжрэгіянальных шляхоў зносін

**У сувязі з рамонтам чыгуначнага моста на ўчастку Маладзечна - Полацк мяняецца графік руху цягнікоў міжнародных ліній:**

**27 сакавіка**

№87/88 **Мінск – Рыга - Мінск**

адпраўленнем да ст. Мінск у **06:37**
адпраўленнем да ст. Рыга у **22:16**

**адмяняюцца**

**і ўстанаўліваюцца ў шляхі зносін Мінск-Рыга праз ст. Орша, Віцебск**
адпраўленнем ад ст. Мінск у **18:44**

**27 сакавіка**

№80 **Калінінград - С.-Пецярбург**

адпраўленнем са ст. Маладзечна ў **20:16** будзе ісці зменены маршрутам праз ст. Мінск, Орша, Віцебск і прыбыццём на ст. С.-Пецярбург у **11:44**

**У сувязі з рамонтам чыгуначнага моста на ўчастку Маладзечна - Полацк мяняецца графік руху цягнікоў міжрэгіянальных ліній:**

**26, 27 сакавіка**
№625 **Мінск - Віцебск**
адпраўленнем да ст. Віцебск у 23:21

**27, 28 сакавіка**
№626 **Віцебск - Мінск**
адпраўленнем да ст. Мінск у 04:53

**адмяняюцца**

і ўстанаўліваюцца ў шляхі зносін

**Віцебск - Крулеўшчына – Віцебск**

**26, 27, 28 сакавіка**
№740 **Полацк - Мінск**
адпраўленнем да ст. Мінск у **08:44**

**26, 27 сакавіка**
№739 **Мінск - Полацк**
адпраўленнем да ст. Полацк у **18:35**

**адмяняюцца**

## Паважаныя пасажыры!
## УП "Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі" інфармуе

У сувязі з рамонтам чыгуначнага моста на перагоне **Вілейка-Маладзечна**
ад 09:10 **26 сакавіка** да 18:10 **28 сакавіка**
ад 09:10 **9 красавіка** да 18:10 **11 красавіка**

УНП 600199541

**1. Цягнікі рэгіянальных ліній эканомкласа:**
адпраўленнем са станцый Крулеўшчына, Полацк, Глыбокае
БУДУЦЬ ІСЦІ да станцыі Вілейка і назад;
Маладзечна-Вілейка-Маладзечна
**ЗДЫМАЕЦЦА СА ШЛЯХОЎ ЗНОСІН**

**2. Расклад руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканомкласа на перыяд рамонтных работ:**

| | | |
|---|---|---|
| **26 сакавіка, 9 красавіка** | | |
| № цягніка | Маршрут руху | Час прыбыцця на ст. Вілейка |
| 6625 | Полацк - Вілейка | 19:05 |
| № цягніка | Маршрут руху | Час адпраўлення ад ст. Вілейка |
| 6630/6631 | Вілейка - Глыбокае | 21:10 |
| **27 сакавіка, 10 красавіка** | | |
| № цягніка | Маршрут руху | Час прыбыцця на ст. Вілейка |
| 6622/6621 | Глыбокае - Вілейка | 6:31 |
| 6625 | Полацк - Вілейка | 19:01 |
| № цягніка | Маршрут руху | Час адпраўлення ад ст. Вілейка |
| 6626 | Вілейка - Полацк | 9:30 |
| 6630/6631 | Вілейка - Глыбокае | 21:10 |
| **28 сакавіка, 11 красавіка** | | |
| № цягніка | Маршрут руху | Час прыбыцця на ст. Вілейка |
| 6622/6621 | Глыбокае - Вілейка | 6:31 |
| № цягніка | Маршрут руху | Час адпраўлення ад ст. Вілейка |
| 6626 | Вілейка - Полацк | 9:30 |

**3. Перавозка пасажыраў між станцыямі Маладзечна і Вілейка**
БУДЗЕ АЖЫЦЦЯЎЛЯЦЦА аўтобусамі па чыгуначных білетах (БЕЗ ЗАЕЗДУ НА ПРЫПЫНАЧНЫЯ ПУНКТЫ: Тышкевічы, Даманоўскі, Чырвоны Беражок, Зеніт).

**4. Расклад руху аўтобусаў:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| **26 сакавіка, 9 красавіка** | | | |
| Вілейка-Маладзечна | | Маладзечна -Вілейка | |
| Адпраўленне ад ст.Вілейка | Прыбыццё на ст. Маладзечна | Адпраўленне ад ст. Маладзечна | Прыбыццё на ст. Вілейка |
| 19:10 | 19:55 | 20:14 | 20:59 |
| **27 сакавіка, 10 красавіка** | | | |
| Вілейка - Маладзечна | | Маладзечна - Вілейка | |
| Адпраўленне ад ст.Вілейка | Прыбыццё на ст. Маладзечна | Адпраўленне ад ст. Маладзечна | Прыбыццё на ст. Вілейка |
| 6:41 | 7:26 | 8:35 | 9:20 |
| 19:10 | 19:55 | 20:14 | 20:59 |
| **28 сакавіка, 11 красавіка** | | | |
| Вілейка - Маладзечна | | Маладзечна - Вілейка | |
| Адпраўленне ад ст.Вілейка | Прыбыццё на ст. Маладзечна | Адпраўленне ад ст. Маладзечна | Прыбыццё на ст. Вілейка |
| 6:41 | 7:26 | 8:35 | 9:20 |

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 15.03 | 22.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9589 | **1,9623** |
| Еўра | 2,4241 | **2,4086** |
| Злоты, 10 | 5,7511 | **5,6806** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,4422 | **3,4121** |
| Грыўня, 100 | 7,5097 | **7,4626** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **14.03** | **21.03** |
| Еўра | 2.4100/2.4320 | **2.4000/2.4250** |
| Долар ЗША | 1.9480/1.9680 | **1.9500/1.9700** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 14.03 | 21.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 19,90 | **16,95** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,35 | **2,95** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,95 | **6,85** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,40 | **4,40** |
| Селядзец, 1 кг (салёны) | 5,50 | **3,90** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Карп "Элітны" | 4,50 | **4,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,20 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,35 | **1,80** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,00 | **5,20** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,40 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. С1 | 1,60 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 4,00 | **2,95** |
| Баклажаны, 1 кг | 6,90 | **5,80** |
| Бульба, 1 кг | 0,70 | **0,75** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,65 | **0,69** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,30** |
| Морква, 1 кг | 0,75 | **0,79** |
| Памідоры, 1 кг | 3,50 | **3,40** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,70 | **0,79** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | - | **4,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,80 | **2,95** |
| Бананы, 1 кг | 3,50 | **3,20** |
| Вінаград, 1 кг | 3,90 | **6,50** |
| Гранаты, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Грушы "Канферэнцыя", 1 кг | 3,00 | **3,50** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,20 | **2,99** |
| Ківі, 1 кг | 3,20 | **3,95** |
| Лімоны, 1 кг | 3,90 | **3,70** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **3,30** |
| Хурма, 1 кг | 3,60 | **3,90** |
| Яблыкі "Голдэн", 1 кг | 2,20 | **1,95** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 14,00 | 14,00 |
| Мёд, 0,5 л | 8,00 | - |
| Сала, 1 кг | 11,00 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | 6,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | 3,00 |

НАВІНЫ

## Ашмянец згвалціў і задушыў дзяўчыну ў Мінску

**АШМЯНЫ**

У кастрычніку 2017 года сталічная міліцыя затрымала маладога чалавека, падазраванага ў забойстве. Яго заўважыў таксіст, які ўбачыў, што ў цемры нехта валачэ дзяўчыну па зямлі, піша "Наша Ніва".

Калі таксіст спыніўся, мужчына збег. Дзяўчына была мёртвая.

Вядома, што забітую дзяўчыну звалі Алеся Буцько. Ёй быў 21 год. Алеся родам з Гомельскай вобласці, але апошнім часам жыла ў Мінску. Працавала ў адным з аддзяленняў "Беларусбанку" і вучылася на завочным у БДЭУ на ўлікова-эканамічным факультэце.

Затрыманы – беспрацоўны 21-гадовы ўраджэнец Ашмянскага раёна.

Следчы камітэт распавёў падрабязнасці здарэння.

Аказваецца, падазраваны пазнаёміўся з Алесяй за пяць дзён да той ночы. І адразу адчуў сімпатыю да дзяўчыны.

У выніку ён запрасіў яе ў найманы дом па вуліцы Весніна. Там збіў і згвалціў, а пасля задушыў.

Затым збіраўся інсцэніраваць разбойны напад на пацярпелую, для чаго вынес цела забітай у лесапаркавую зону побач з домам і раскідаў яе рэчы. Але яго заўважыў таксіст.

Цяпер крымінальная справа перададзеная ў суд. Мужчыну пагражае расстрэл.

**Паводле "Нашай Нівы".**

## У Маладзечне мужчына абакраў сваю каханую

**МАЛАДЗЕЧНА**

Паводле папярэдняй інфармацыі ўстанавілі, што з падазраваным жанчына пазнаёмілася на адным з інтэрнэт-сайтаў, распавяла прадстаўнік УУС Мінаблвыканкама **Ганна Ком**.

Абраннікам маладзечанкі стаў 32-гадовы сталічны жыхар, які нідзе не працаваў і ўжо быў пакараны за крадзеж. Аднак у анкеце на сайце знаёмстваў мужчына пра гэта, канешне ж, не напісаў.

Пагутарыўшы па інтэрнэце, пара вырашыла пазнаёміцца бліжэй. Госць з Мінска прыехаў да 33-гадовай жанчыны ў Маладзечна. Рамантычны вячэру вырашылі арганізаваць у кватэры гаспадыні. Спатканне працягвалася два дні, не абыходзіліся без спіртных напояў.

Па наяўнай інфармацыі, калі жанчына ненадоўга адлучылася да суседкі, яе госць узяў фотаапарат, відэакамеру і ноўтбук на суму тысяча рублёў.

Вярнуўшыся ў кватэру, жанчына ўбачыла, што каханы спешна збіраецца ехаць. Гаспадыня дапамагла яму выклікаць таксі і развіталася. Калі вярнулася, заўважыла, што з кватэры зніклі рэчы, і патэлефанавала ў міліцыю.

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку ў ходзе правядзення аператыўных мерапрыемстваў затрымалі мужчыну ў Мінску. Устанавілі, што некаторыя скрадзеныя рэчы ён паспеў прадаць.

У дачыненні да затрыманага ўзбудзілі крымінальную справу.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## На пажары знайшлі труп гаспадара

**СМАРГОНЬ**

19 сакавіка каля дзесяці гадзін вечара смаргонскім выратавальнікам паведамілі пра пажар у вёску Кеўлы Сінькаўскага сельсавета.

Згарэла маёмасць, сцены, перакрыцці.

У хуткім часе пасля прыезду ў адным з жылых пакояў дома выратавальнікі знайшлі абгарэлы труп гаспадара.

Дакладную прычыну высвятляюць. Верагодна, пажар мог адбыцца з-за неасцярожнасці падчас курэння.

**Паводле сайта МНС.**

## У бальніцы ў пенсіянеркі скралі грошы

**ВІЛЕЙКА**

У Вілейскі РАУС звярнулася 84-гадовая жанчына і паведаміла, што ў бальнічнай палаце ў яе скралі 55 рублёў.

Па словах пацярпелай, на ноч яна клала кашалёк пад падушку.

– Раніцай жанчына прачнулася, пералічыла грошы і недалічылася 55 рублёў, – распавёў "Рэгіянальнай газеце" **Аляксандр Путырскі**, намеснік начальніка Вілейскага РАСК.

Падчас праверкі супрацоўнікі міліцыі пачалі падазраваць, што грошы скрала 43-гадовая мясцовая жыхарка, якая ляжала з пацярпелай у адной палаце. На допыце падазраваная ўвесь час блыталася ў паказаннях і ўрэшце прызналася ў крадзяжы.

– Жанчына сказала, што ноччу, калі суседка па палаце заснула, яна ўзяла з-пад падушкі кашалёк, выцягнула 55 рублёў і паклала яго на ранейшае месца. Пацярпелая спала і нічога не пачула, – распавёў Аляксандр Путырскі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Адзін з цэхаў завода, дзе здарылася трагедыя. Фота realt.by.

# На керамічным заводзе загінуў 26-гадовы рабочы

**МАЛАДЗЕЧНА**

**На Радашкавіцкім керамічным заводзе загінуў 26-гадовы хлопец. Маладзечанскі раённы аддзел СК праводзіць праверкі.**

Гэта здарылася 13 сакавіка. Як распавяла БелТА афіцыйны прадстаўнік Упраўлення СК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**, Маладзечанскі раённы аддзел СК праводзіць праверку па факце смерці 26-гадовага работніка прадпрыемства.

Па папярэдніх дадзеных, ён атрымаў смяротную траўму абсталяваннем, дакладная прычына смерці будзе вызначаная па дадзеных судова-медыцынскай экспертызы.

– Следствам праведзены агляд месца здарэння, канфіскаваная дакументацыя тэхнічнага і вытворчага характару, праводзіцца комплекс праверачных мерапрыемстваў, накіраваных на ўстанаўленне абставінаў таго, што адбылося, – паведаміла Таццяна Беланог.

**Паводле БелТА.**

## Жыхарку Княгініна падманула інтэрнэт-махлярка

**МЯДЗЕЛ**

У РАУС звярнулася 32-гадовая жыхарка аграгарадка Княгінін з заявай аб махлярстве. Яна сцвярджала, што яе падманулі ў інтэрнэце і несумленным шляхам завалодалі грашыма.

Супрацоўнікі міліцыі высветлілі, што пацярпелая хацела набыць футра на адным спецыялізаваным буйным сайце з аб'явамі. Вывучыўшы прапановы, жанчына спынілася на прыгожай вопратцы па прывабнай цане. Прадаўцом аказалася прыемная ў зносінах дзяўчына, якая ахвотна адказвала на пытанні, расказвала пра тавар і высылала фота.

Калі пацярпелая рашыла набыць футра, прадавец папрасіла перадаплату – 75 рублёў "каб ведаць, што вы сапраўды купіце, а то на гэтае футра шмат ахвотных".

Махлярка падала дадзеныя па сваёй банкаўскай карце, каб можна было перавесці грошы на яе рахунак. Заяўніца ўнесла "перадаплату", аднак дачакацца футра так і не давялося. Прадавец некалькі дзён абяцала прывезці тавар пазней, а неўзабаве і зусім перастала выходзіць на сувязь.

Падазраваная – 24-гадовая жыхарка Віцебска. На яе старонцы з аб'явамі лічылася мноства тавараў: ад футра і сукенак да дзіцячых калясак і падгузнікаў. Аднак падчас агляду кватэры затрыманай супрацоўнікі міліцыі не знайшлі нічога з дадзенага спісу – усе гэтыя рэчы апынуліся толькі прынадай для наіўных пакупнікоў.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Выратавальнікі 12 разоў на дзень выязджалі на падтапленні

**МАЛАДЗЕЧНА**

13 сакавіка выратавальнікі Маладзечанскага ГРАНС 12 разоў выязджалі на дапамогу насельніцтву.

У сувязі з рэзкім раставаннем снегу назіраюцца такія надзвычайныя сітуацыі, як паводкі. Затопленыя шматлікія падворкі, скляпы, падмуркі жылых дамоў. Узровень падтаплення складае 10-40 сантыметраў.

Да месца для адпампоўвання вады і аказання дапамогі насельніцтву едуць падраздзяленні выратавальнікаў Маладзечанскага ГРАНС за спецыяльнай тэхнікай, "Камунальнік", "Водаканал".

**Валянціна СОПАТ, інспектар групы прапаганды і агітацыі Маладзечанскага ГРАНС.**

## Транспартная міліцыя папярэджвае пра крадзяжы ў цягніках

**МАЛАДЗЕЧНА**

Апошнім часам крадзяжы рэчаў, дакументаў і мабільных тэлефонаў у пасажыраў цягнікоў сталі больш частымі.

У шматлікіх выпадках пацярпелыя самі ствараюць умовы для здзяйснення такіх злачынстваў. Варта быць пільным і памятаць, што злачынцы ўмеюць уваходзіць у давер. Таму ніколі не спрабуйце гуляць у цягніках у азартныя гульні з незнаёмцамі, распіваць з імі спіртныя напоі, не пакідайце рэчы пад наглядам незнаёмых, нават на кароткі час.

Торбы, чамаданы і іншыя рэчы трэба складзі пад сядзенне або ў іншыя месцы, прадугледжаныя для гэтага. Старайцеся не паказваць, што маеце вялікую суму грошай, у касах па магчымасці разлічвайцеся раней адкладзенымі грашыма. Асабістыя дакументы, грошы, мабільнік трымайце пры сабе. Пажадана ва ўнутраных кішэнях.

Калі ў цягніку вы ўсё ж сталі ахвярай злачынства, звярніцеся па дапамогу да брыгады цягніка, міліцэйскага нарада, калі яго суправаджае, або тэлефануйце на нумар 102.

Варта памятаць, што чыгунка з'яўляецца зонай павышанай небяспекі. Таму, знаходзячыся тут, неабходна выконваць наступныя меры бяспекі:

- пераходзіць чыгуначныя пуці толькі ва ўстаноўленых месцах
- не лезці пад вагоны цягніка
- не дазваляць дзецям гуляць на чыгуначных пуцях і побач з цягнікай
- звяртаць увагу на гукавую і светлавую сігналізацыю, якая папярэджвае пра набліжэнне цягніка
- не пераходзіць чыгуначныя пуці ў навушніках.

Згодна з Адміністрацыйным кодэксам Рэспублікі Беларусь, за пераход чыгункі ва неўстаноўленым месцы прадугледжаны штраф да двух базавых велічынь, што складае 46 рублёў.

**Сяргей ВАСІЛЕЎСКІ, інспектар прапаганды Маладзечанскага АУСТ.**

# Сустрэньце лета ў новай кватэры, раіць арганізацыя “ЧысцьБау”

**Калі ўязджаеш у Маладзечна з боку Хажова, бачыш, як на гары ў Шостым мікрараёне ідзе будаўніцтва шматпавярхоўкі.**

Квадратны метр жылля ў новым доме каштуе 1296 рублёў.

На пляцоўцы працуюць рабочыя, гудзе тэхніка, у дом завозяцца будаўнічыя матэрыялы і нават газавыя пліты. Работа кіпіць, бо ўжо ў красавіку ў гэтым доме з’явяцца першыя навасельцы.

– Дом 54-кватэрны, у ім ёсць і 1-, і 2-, і 3-пакаёвыя кватэры, – расказвае **Уладзімір Ракуцька**, дырэктар “ЧысцьБау”. Пры гэтым, вольных кватэр засталося не так і шмат.

Традыцыйна навасельцы першымі займаюць сярэднія паверхі: ад другога да шостага. Але на сёння ёсць яшчэ кватэры і на гэтых паверхах.

– Хаця прыйшоў мужчына, які адразу сказаў, што будзе жыць толькі на дзявятым паверсе. Яшчэ б! Вы б бачылі, які від адкрываецца з гэтага паверха на горад.

І гэта, як расказваюць у “ЧысцьБау” , самая нізкая цана на новыя кватэры ў горадзе.

– Мы здаём кватэры без унутранага аздаблення, але, калі жыхары хочуць, можам зрабіць рамонт: і падлогу пакладзём, і плітку, і шпалеры паклеім.

У “ЧысцьБау” расказваюць, што навасельцы ў першую чаргу пытаюцца пра планіроўку ў кватэры, а пасля гэтага, хто будзе іх суседам.

Што датычыцца планіроўкі, то ў новым доме прапануюць кватэры з адной ці дзвюма лоджыямі, з агульным ці асобным санвузлом.

– Я нават не ведаю, якія кватэры карыстаюцца большым попытам. У тых кватэрах, дзе агульны санвузел, большы метраж. Камусьці падабаюцца доўгія калідоры, хтосьці выбірае, каб вокны выходзілі на розныя бакі, – кажа Уладзімір Ракуцька.

А калі казаць пра суседзяў, то памылкова думаць, што ў новым доме кватэры купляюць толькі маладзёны. Хаця яны, безумоўна, ёсць.

– Усе людзі, якія прыходзяць да нас, сапраўды, мілыя і ветлівыя. Дзяўчына, што купляе сабе кватэру, муж з жонкай, цудоўная інтэлігентная пара, якія пераязджаюць з іншага горада. Думаю, суседзі знойдуць паміж сабой агульную мову, бо не толькі дом будзе ўтульны і прыгожы, але і двор. Абавязкова будзе не толькі дзіцячая пляцоўка, але і шмат зеляніны, каб цёплым летнім вечарам можна было паглядзець на захад сонца, седзячы ў сваім двары.



**Новая шматпавярхоўка па вуліцы Гарадоцкай, 116-г гатовая прымаць навасельцаў.**

Прадпрыемства “ЧысцьБау” будуе не толькі шматкватэрныя дамы, але і індывідуальныя.

– Можам пабудаваць дом як з блокаў, цэглы так і з дрэва. Напрыклад, мы пабудавалі драўляны дом у Ілы, таму што будучая гаспадыня дома канкрэтна патрабавала, каб дом быў драўляны.

Прадпрыемства “ЧысцьБау” працуе ў галіне будаўніцтва ўжо 25 гадоў. Нягледзячы на тое, што ўмовы працы мяняюцца, патрабаванні да якасці растуць з кожным годам, арганізацыя ўпэўнена даказвае сваю канкурэнтаздольнасць.

Пацвярджэннем гэтаму сталі дзясяткі пабудаваных шматпавярховых дамоў, у тым ліку ў Маладзечне па Валынца, Віленскай і 2-м завулку Чкалава, сучасны корпус у санаторыі “Сасновы бор” у Радашкавічах і Дом культуры ў Чысці, царква ў Мінску, індывідуальныя жылыя дамы сацыяльнага прызначэння для шматдзетных сем’яў. А таксама больш за 200 камфортных дамоў, пабудаваных у аграгарадках Мінскай вобласці.

По выніках 2017 года “ЧысцьБау” як лепшая будаўнічая арганізацыя занесеная на Дошку пашаны Маладзечанскага раёна.

Тэлефоны:
**8-0176-70-24-78**
**8 (029) 172-17-51.**
Адрас: ***222321, Мінская вобласць, Маладзечанскі раён, п.Чысць, вул. Заводская, 1.***
E-mail:
**chistbau@tut.by**

УНП 600042371

## Аўтамабілі без тэхагляду будуць знаходзіць з дапамогай фотафіксацыі

У Беларусі сістэму камер фотафіксацыі плануюць перавесці ў бесперапынны рэжым працы. Гэта дапаможа кантраляваць выплату аўтаўладальнікамі страхавых унёскаў, а таксама знаходзіць машыны, якія не прайшлі своечасова дзяржаўны тэхагляд.

У Беларусі распрацавалі адпаведны праект указа. Цяпер камеры спрацоўваюць на перавышэнне хуткасці, але іх можна наладзіць так, што яны змогуць здымаць усё ў бесперапынным рэжыме. Для гэтага спатрэбяцца мінімальныя наладкі.

“Лісты шчасця” аб выплаце штрафу за няпройдзены тэхагляд будуць адпраўляць па пошце. Іх атрымаюць уладальнікі аўтамабіля, а памер штрафу будзе фіксаваным – дзве базавыя велічыні, а гэта 49 рублёў. Пры гэтым не будуць складаць пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні.

Праект указа таксама прапануе падзяліць выплату дзяржпошліны на некалькі частак. Мяркуюць, што транспартны падатак будзе “адвязаны” ад тэхагляду.

**Паводле tut.by.**

## У перыяд нерасту працуюць ахоўныя меры, якія забараняюць лавіць усе віды рыб.

Ад 20 сакавіка пачаўся нераст

Большасць рыб Беларусі нерастуе вясной. У гэты перыяд ёсць асаблівыя патрабаванні да рыбакоў.

Для Брэсцкай і Гомельскай абласцей гэты перыяд доўжыцца ад 20 сакавіка да 18 мая. Для Мінскай, Магілёўскай і Гродзенскай абласцей – ад 1 красавіка да 30 мая. Для Віцебскай вобласці – ад 10 красавіка да 8 чэрвеня.

Падчас нераставай забароны аматарскае рыбалоўства не забароненае, але абмежаванае.

Рыбачыць можна толькі адной вудай з адным кручком ці спінінгам са штучнай прынадай. Можна выкарыстоўваць адзінарны, двайны ці трайны кручок.

Рыбачыць толькі з берагу, не заходзячы ў ваду ці з лёду, штучных пабудоў толькі ў светлы час.

Выкарыстанне любых іншых прыладаў ці спосабаў расцэньваецца як парушэнне і цягне штраф ад 20 да 50 базавых велічынь (ад 490 да 1225 рублёў).

За рыбу, злоўленую забароненым спосабам, парушальнік выплаціць шкоду.

У перыяд нерасту шкода вымяраецца трайной таксай.

За шкоду на 100 і больш базавых могуць узбудзіць крымінальную справу.

**Васіль ПАЎЛАЎ, старшы дзяржаўны інспектар Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

## У Вілейцы і Маладзечне зладзяць рэгіянальныя кірмашы

14 красавіка вясновы рэгіянальны кірмаш правядуць у Маладзечне, 21 красавіка – у Вілейцы.

На маладзечанскім кірмашы сваю прадукцыю прапануюць арганізацыі Вілейскага, Валожынскага, Дзяржынскага, Лагойскага, Мінскага, Маладзечанскага, Мядзельскага, Смалявіцкага раёнаў і Жодзіна.

На кірмашы ў Вілейцы паўдзельнічаюць гандляры з Вілейскага, Валожынскага, Лагойскага, Мінскага, Маладзечанскага, Мядзельскага раёнаў.

Прапануюць сельскагаспадарчую прадукцыю, харчовыя тавары, кулінарныя і кандытарскія вырабы, прамысловыя тавары, угнаенні, насенне і пасадачны матэрыял, сельскагаспадарчы інвентар, вырабы рамеснікаў.

**Аддзел інфармацыі**

## Вясну ў Вязынцы паклічуць 24 сакавіка

МАЛАДЗЕЧНА

Студэнцкае этнаграфічнае таварыства і Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы зноў запрашаюць усіх у Вязынку пагукаць вясну. Свята адбудзецца 24 сакавіка, пачатак – у **13:00**.

У праграме вясновыя песні і карагоды, гульні для моладзі і дзяцей, традыцыйная музыка і танцы, кірмаш.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Мядзеле правялі конкурс “Бабуліны прысмакі-2018”

МЯДЗЕЛ

Конкурс кулінарнага майстэрства “Бабуліны прысмакі” зладзілі ў гарадскім Доме культуры.

У ім удзельнічалі сябры Мядзельскага раённага аб’яднання ветэранаў. Удзельнікі паказалі сваё майстэрства ў кулінарыі. Конкурс праводзілі па намінацыях “Кандытаскае майстэрства”, “Ветэранскія пірагі”, “Бабулін рэцэпт”.

Пераможцы раённага конкурсу **Валянціна Яфімава** і **Фаіна Лявошка** прадставяць Мядзельшчыну на абласным конкурсе.

**Аддзел інфармацыі.**

## Віляйчане далучацца да экалагічнай акцыі “Гадзіна зямлі”

ВІЛЕЙКА

24 сакавіка ў Беларусі правядуць акцыю “Гадзіна зямлі”.

Мерапрыемства падтрымае Вілейка. У гэты дзень у горадзе ад 20:30 да 21:30 выключаць святло. Ініцыятар акцыі ў Беларусі – таварыства “Зялёная сетка”.

**Аддзел інфармацыі.**

## Вілейская міні-лабараторыя ўдзельнічае ў рэспубліканскім конкурсе

ВІЛЕЙКА

Міні-лабараторыя “Планета навуковых цудаў” для школьнікаў у Вілейцы адкрылася летась на базе Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі пад кіраўніцтвам **Вольгі Шостак**.

Для правядзення доследаў юныя навукоўцы выкарыстоўваюць простыя бытавыя рэчы: паветраныя шарыкі, пластыкавыя бутэлькі, шкляначкі, CD-дыскі. Тут вырабляюць навуковыя цацкі. Гэта самаробныя тэлефоны, палімерныя чарвякі, 3D піраміды для прагляду галаграфічных відэа. Аднак усё гэта не дазваляе ў дастатковай меры прадэманстраваць і растлумачыць шматлікія фізічныя, хімічныя і біялагічныя паняцці і з’явы юным навукоўцам.

Каб абсталяваць мабільную міні-лабараторыю, праект удзельнічае ў XI Рэспубліканскім конкурсе сацыяльных праектаў Social Weekend. Сярод 200 заяўленых, ініцыятыва “Планета навуковых цудаў” павінна прайсці народнае галасаванне, з дапамогай якога будуць абраныя 20 лепшых праектаў Беларусі.

У рамках праекта плануюць абсталяваць мабільную міні-лабараторыю, здымаць відэа доследаў, наладзіць экскурсіі ў Інфармацыйны цэнтр па атамнай энергіі, на Рэспубліканскую выставу інавацыйнай і тэхнічнай творчасці навучэнскай моладзі, у музей займальнай навукі “Квантум”.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **75617.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **61385.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| ВІЛЕЙКА | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* Rh.by







## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- Кіа-Піканта, 2011 г.в, 1,0Б. Т. Вэлком (8-029) 6245038.
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-025) 9414091.***
- Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*
- Аўто 0,01 – 4,0 л, іншамарку 1986-2018 г.в. у любым стане, можна аварыйную. Т. (8-029) 9078269, (8-033) 3495240.*
- Аўто ВАЗ, Масквіч, Волга, УАЗ, старую іншамарку і інш. у любым стане. Т. (8-029) 5261974.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*
- Аўто. Можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*
- Каталізатар б/у. Т. (8-029) 9357762.*

### ІНШАЕ

- Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя да 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазнеў, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*



### ПАСЛУГІ

- Паслугі экскаватара ЕВК-14 (0,9 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Хітачы, пагрузчыка Амкадор, самазвала 20 т, трала 24 т. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. (8-029) 3713335, (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, новабудоўля 2016, 2 паверх, цэгла. Т. (8-029) 1602392.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2746195.
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Савецкай, 91. 59 кв. м, 5 паверх. Т. (8-029) 3345737.*
- 2-пакаёвая кват-эра ў прыватным доме ў цэнтры Вілейкі. Можна пад дачу. Побач рэчка. Т. (8-029) 8775320.*
- 2-узроўневы дом у Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Чапаева, 62; 61,3 кв. м, 5 паверх, 74 000 бел. руб, торг. Т. (8-029) 5056728.
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Вольнай на другім паверсе. Т. (8-0176) 531545, (8-029) 5086693.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Мядзелу, 3 паверх, возера, школа, дзіцячы сад альбо мяняю. Т. (8-025) 5444391.*
- 4-пакаёвы дагледжаны дом з верандай, газіфікаваны, 25 сотак, 1 км ад возера Нарач, "Зубраня", в. Пронькі Мядзельскага раёна. Т. Вэлком (8-044) 4962778.
- Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*
- Гараж у ГК №12 Маладзечна. Т. (8-029) 5612059.*
- Дача ў в. Прынта, участак 4 соткі, побач рака, лес. Т. (8-029) 7512672.*
- Дача у Зялёных Узгорках, 18 км ад Маладзечна. Т. (8-029) 3925149.*
- Дом драўляны жылы ў Маладзечне. Газ, вадаправод. Т. (8-029) 6691789.*
- Дом з гаспабудовамі ў вёсцы Медрыкі Сольскага с/с Смаргонскага раёна (Астравецкі напрамак): лазня, калодзеж. Рэчка, лес. Т. (8-0176) 556831, (8-025) 5294120.
- Дом з участкам у в. Снежкава (Карвелі). Т. (8-033) 3359636.
- Дом новы ў Смаргоні. Гатоўнасць 80%. Т. (8-044) 7722658.*
- Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*
- Дом у вёсцы Гародзькі Валожынскага раёна (станцыя Валожын). Т. (8-044) 4586051.*
- Дом у вёсцы Кучкі Маладзечанскага раёна, 25 сотак зямлі. Гаспадарчыя пабудовы, сад, агарод, побач вадаём. Т. (8-033) 6380206.
- Дом, 13 км ад Смаргоні. Т. (8-029) 8724272.

### КУПЛЮ

- Домік у вёсцы паблізу Маладзечна. Т. (8-029) 7051492.

### ЗДАМ

- Пакой хлопцу ў Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.*





## ПАСЛУГІ

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- БУСы па 1,5 тон. Адкрыты бартавы і тэнтаваны. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*
- Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*
- Мерсэдэс-Спрынтар да 2 тон, 4,2 / 1,75 / 1,65, горад, РБ, РФ. ІП Навойчык А.У. УНП 692015166. Т. Вэлком (8-029) 1684717, МТС (8-029) 7684717.*
- Фура 20 тон, адкрытая бартавая. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077311. Т. (8-029) 1921299.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*
- Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*
- Надпіс і фота на майку/кубак – 9 руб. Смаргонь, вул. Танкістаў,8 "НгС". ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Т, (8-01592) 31570.*
- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*
- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*
- **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*
- Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў "Атлант", "ВЕКО", "Норд" "Індэзіт". ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*
- Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*
- **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*
- Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*
- Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*



## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА**. Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*
- Блокі газасілікатныя, цэгла, блокі некандыцыя. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1998898, (8-033) 6989980.*
- Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*
- Вагонка, імітацыя бруса, дошкі для падлогі. ІП Кусовіч І. І. УНП 691891279. Т. (8-029) 9394025.*
- Цэгла (кірпіч) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар Т-40, навяснае, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Мэбля**

• Мэбля б/у. Т. Вэлком (8-029) 3251269.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты: бройлерныя КОББ-500, нясушкі, цацаркі. Дастаўка.Т. МТС (8-033) 6908397, Велком (8-029) 6938397.*

• Парасяты в'етнамскія. Т. (8-0176) 503195, (8-033) 6316635 пасля 19:00.*

• Рускі той-тэр'ер, 3 месяцы, сука, 2000 руб. Т. (8-044) 7462476.

• Шчаняты таксы. Т. (8-044) 5346566.

**Іншае**

• Пілавіннe, гарбыль з дастаўкай. Т. (8-029) 7876438.*

• Сена. Т. Вэлком (8-029) 6870898.*

**КУПЛЮ**

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Казу малочную. Т. (8-029) 5781910.

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бронзавыя статуэткі "Буды". Карціны рускіх мастакоў. Рукапісныя кнігі. Старадаўнюю ікону. Куплю калекцыянер. Т. Вэлком (8-029) 6550007.*

• Бульбу буйную харчовую ў любой колькасці. Т. (8-029) 2637474, (8-033) 6316374.*

• Бульбу ў насельніцтва. Т. (8-029) 8456305.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася, аленя, шкуркі куніцы, выдры. Т. (8-029) 8552646.*

**ПРАЦА**

**ПАТРАБУЕЦЦА**

• Кандытар. ІП Пучкіна А.А. УНП 600363299. Т. (8-029) 7043156.

• Цырульнік-універсал. Т. 98-029) 7098759.*

**ШУКАЮ РАБОТУ**

• Бетонныя, зварачныя работы, кладка блокаў, цэглы. Устаноўка агароджаў, сцяжкі ганка. Спілоўванне дрэў. Т. (8-044) 7556706, (8-029) 8521268.





# Часу, каб выйграць планшэт, застаецца ўсё менш

Скончылася трэцяя вучэбная чвэрць, а гэта значыць, што да розыгрышу планшэта засталося крыху больш за два месяцы.

Вам ёсць 12 год, вучыцеся ў школе ці гімназіі і маеце "9" ці "10" па любым з прадметаў? Тады наш конкурс "Дзясятачка" – для вас.

У акцыі могуць удзельнічаць школьнікі любой школы рэгіёна. Няхай удзельнічаюць і вашы аднакласнікі, каб вы атрымалі магчымасць зарабіць паход у піцэрыю для ўсяго класа.

Вы можаце дасылаць адзнакі, зробленыя цягам усяго года, але на кожную адзнаку неабходны асобны бланк. Той, хто дашле найбольш бланкаў, атрымае планшэт. Клас, вучні якога былі самымі актыўнымі, пойдуць усе разам у піцэрыю.

Калі ў вас ёсць пытанні па акцыі, задавайце іх нам па пошце, тэлефоне ці ў сацыяльных сетках.

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Прымаецца адзнака за 2017/2018 навучальны год.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by/by/457/50/18289/.

**Аддзел інфармацыі.**

**Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№12)**

1. Імя, прозвішча______________________________

2. Дата нараджэння ______________________________

3. Клас
Школа______________________________

4. Населены пункт______________________________

5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі

6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ______________________________

7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")__________
8. Дата атрымання адзнакі ______________

9. Імя, імя па бацьку ______________________________

10. Прозвішча настаўніка ______________________________

11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам______________

12. Подпіс настаўніка______________________________

# "Белтэлекам" абвясціў пра павышэнне тарыфаў

Кампанія "Белтэлекам" абвясціла пра павышэнне тарыфаў на інтэрнэт і тэлефонныя паслугі. Новыя цэны ўступаюць у сілу з 1 красавіка.

"Тарыфная палітыка кампаніі "Белтэлекам" накіраванае на максімальнае стрымліванне росту цэнаў. Аднак пастаяннае развіццё тэлекамунікацыйных тэхналогій і забеспячэнне гарантавана высокай якасці паслуг немагчыма без мадэрнізацыі сеткі, набыцця сучаснага абсталявання, распрацоўкі новых тэхнічных рашэнняў і паслуг, гаворыцца ў паведамленні.

З 1 красавіка інтэрнэт падаражае ў сярэднім на 3%.

Павысяць кошт паслуг тэлеграфнай сувязі, міжнародных званкоў, званкоў на мабільнікі.

Zala падаражэе на 6%.

**Паводле Белтэлекам.**



# РУП “Минское областное агентство по государственной регистрации и земельному кадастру” Молодечненский филиал

**г. Молодечно, ул. Богдана Хмельницкого, 22, (8-0176) 58-07-23, d630@nca.by**

## Экстерриториальная государственная регистрация

У нас можно подать заявление о регистрации недвижимости, расположенной в любой точке Республики Беларусь, а также получить готовые документы после регистрации.

**(8-0176) 58 07 23, 58 07 29;**
**(8-017) 396 28 82**
**(8-017) 226 32 39**

## Техническая инвентаризация недвижимого имущества (зданий, сооружений, помещений и машино-мест).

Только до конца 2018 года техническая инвентаризация эксплуатируемых объектов без НДС 20% для субъектов хозяйствования

**(8-0176) 74 61 39**
**(8-017) 396 28 82**
**(8-017) 316 75 41**

## Удостоверяем договоры с недвижимостью

(купля-продажа, дарение, мена и др.)

В Молодечненском филиале и его бюро можно удостоверить договор с недвижимостью, расположенной в любом регионе Минской области.

**(8-0176) 58 07 23**
**58 07 29**

## Оценка имущества и экспертиза достоверности оценки

Оценка недвижимости, оборудования, транспорта и земельных участков для целей: продажи, кредитования, передачи в залог, разрешения имущественных споров, наследования имущества и иных.

**(8-0176) 74 61 39**
**58 15 34**
**(8-017) 226 27 12**
**(8-017) 226 28 49**

## Геодезические работы

- **Топографическая съёмка** для газофикации и проектирования домов, исполнительная съёмка инженерных сетей и т.д.
- **Установление** (восстановление) **границ** земельных участков

Границы земельных участков на местности должны соответствовать границам, отображённым в правоудостоверяющих документах. Перед установкой ограждения в обязательном порядке восстановите границы земельного участка.

- **Разработка градостроительных паспортов**

**(8-0176) 58 15 32**
**(8-017) 226 31 71**
**(8-029) 125 89 36**

**Уважаемые граждане!**

**Сообщаем вам, что Молодечненский филиал РУП “Минское областное агентство по государственной регистрации и земельному кадастру” 2018 год объявил ГОДОМ ИНДИВИДУАЛЬНОЙ РАБОТЫ с клиентами, не оформившими свою недвижимость.**

Важно принять во внимание, что незарегистрированные объекты недвижимости нельзя продать, подарить, сдать в аренду или распорядиться ими иным образом. Стоимость незарегистрированных в установленном порядке построек не подлежит компенсации при изъятии участков для государственных нужд, а при оформлении наследства у наследников с большей долей вероятности могут возникнуть серьёзные проблемы.

Наша цель – оказание индивидуальной помощи физическим и юридическим лицам, имеющим недвижимость, оформить на неё документы надлежащим образом. Руководители и высококвалифицированные специалисты предприятия готовы внимательно изучить имеющиеся у вас документы на недвижимость и дать компетентный ответ на все поставленные вопросы, в том числе: о порядке оформления документов на земельный участок, сроках строительства и порядке консервации жилых домов, вводе их в эксплуатацию, оформлении документов после перепланировки жилых помещений и возведении хозяйственных построек на придомовой территории, продаже, разделе и дарении недвижимости.

С учётом того, что в начале года, как правило, отсутствует активность на рынке недвижимости, специалисты предприятия готовы уделить максимум внимания индивидуальной работе с каждым клиентом для разрешения проблемных ситуаций, препятствующих оформлению недвижимости, а также обеспечить сопровождение решения вопросов в государственных органах и других организациях.

Заявки на все виды наших услуг у вас примут в любом филиале и бюро унитарного предприятия на территории Минской области независимо от места расположения объекта недвижимости. Получить готовые документы вы также сможете по месту обращения.

**Телефоны справочной службы:**
**в г. Молодечно (8-0176) 58 07 23,**
**в г. Минске (8-017) 226 32 39**

Актуальная информация о телефонах и режиме работы структурных подразделений унитарного предприятия находится на официальном интернет-сайте www.moa.by в разделе «Филиалы и бюро».

Избежать затрат на оформление недвижимости, в любом случае, не удастся, а сделать это своевременно – эффективнее и дешевле.

УНП 600199462

## Архитектурное проектирование

Разработка проектной документации (архитектурная часть) для строительства индивидуальных жилых домов, дач, гаражей, бань, беседок.

Преимущества проектирования в агентстве: оплата по государственным расценкам, индивидуальный подход, возможность корректировать в процессе проектирования.

**(8-0176) 74 61 39**
**(8-017) 396 57 81**
**(8-029) 351 18 33**

## Компьютерная помощь

Ремонт и обслуживание офисной техники юридических лиц. Гарантия, высокое качество и доступные цены.

**(8-0176) 73 02 00**
**(8-017) 220 47 56**
**(8-044) 773 02 71**

## Полиграфические услуги

- Цифровая печать: изготовление визиток (от 3,29 руб. за комплект), листовок (любого формата), календарей, открыток, наклеек, афиш, бейджей, бланков, блокнотов, меню, приглашений, флаеров и т. д.
- Дополнительные услуги: широкоформатное ксерокопирование и сканирование образцов, распечатка документов из файла.
- Ризография: быстрая печать больших чертежей ч/б (форматов А3, А4, А5, А6).

**(8-0176) 73 02 00**
**(8-029) 326 17 02**
**(8-017) 226 28 48**

## Учёт объектов растительного мира с составлением учётной документации

- Для бухгалтерского учёта зелёных насаждений.
- Для составления экологических паспортов предприятия.
- Для оценки.
- Для разработки или корректировки проекта санитарно-защитной зоны предприятия.

**(8-0176) 74 61 39**
**(8-017) 396 57 81**
**(8-029) 125 89 56**

## Бюро, входящие в состав Молодечненского филиала:

**Вилейское бюро**
222410, г. Вилейка, ул. Островского, 7
Тел./факс **(8-01771) 5 42 00**,
e-mail: d631 @nca.by

**Воложинское бюро**
222340, г. Воложин, ул. Комсомольская, 6
Тел./факс **(8-01772) 5 52 42,**
e-mail: d632 @nca.by

**Мядельское бюро**
222380, г. Мядель, ул. 1 Мая, 8
Тел./факс **(8-01797) 5 47 26**,
e-mail: d633 @nca.by



Усім мужчынам пасля 50 год Аляксандр Варапай раіць штогод праходзіць прафілактычны агляд ва ўролага. Фота Аляксандра ЧОРНАГА.

# Уролаг расказвае, як захаваць мужчынскае здароўе

**Да чаго можа прывесці бескантрольны прыём прэпаратаў для павышэння патэнцыі, ці ўплывае піва на сэксуальную актыўнасць і ці ёсць клімакс у мужчын?**

Пра гэта расказаў **Аляксандр Варапаеў**, загадчык уралагічнага аддзялення Баранавіцкай гарадской бальніцы.

20 гадоў таму паход да ўролага многія мужчыны ўспрымалі як нешта ганебнае і пра свае праблемы не гаварылі ўголас. Сёння прадстаўнікі моцнай паловы ахвотна ідуць на кантакт з доктарам. Думаю, сваю ролю ў гэтым адыграла багацце інфармацыі.

### Страту цікавасці да жанчыны часта спісваюць на стомленасць

Пік сэксуальнай актыўнасці ў мужчын прыпадае на 25-35 гадоў. Пасля гэтага арганізм пачынае паступова згасаць. Звязана гэта са зніжэннем узроўню мужчынскага гармону – тэстастэрону. Урологі гэта называюць узроставым андрагенным дэфіцытам. Асабліва прыкметныя гэтыя змены пасля 40 гадоў.

Мужчына становіцца раздражняльным, губляе цікавасць да жыцця, партнёркі, у яго зніжаецца лібіда, могуць узнікаць праблемы з эрэкцыяй. Гэты перыяд называюць мужчынскім клімаксам, ці андрапаўзай. Ім пакутуюць каля 40% мужчын ва ўзросце 40-60 гадоў. Прычым сімптаматыка андрапаўзы праяўляецца раней і мацней у тых, хто вядзе сядзячы лад жыцця, пакутуе на хранічныя захворванні, атлусценне і пастаянна адчувае стрэс.

> **Пагаршае працэс і празмернае ўжыванне піва, у якім вялікая колькасць жаночых гармонаў.**

Часта зніжаецца лібіда, страту цікавасці да партнёркі мужчыны спісваюць на стрэс і стомленасць і не звяртаюцца да дактароў. А дарма. Гэта могуць быць першыя сімптомы захворванняў прастаты. Чым раней пачаць лячэнне, тым больш шанцаў дамагчыся станоўчых вынікаў.

У сілах медыкаў адтэрмінаваць андрапаўзу і палегчыць яе сімптомы. Лячэнне – прыём гарманальных прэпаратаў. Але бывае, што прыём медыкаментаў не патрабуецца – дастаткова скінуць лішнюю вагу або скарэктаваць харчаванне.

### Праблема – у галаве

Адна з частых праблем, з якой звяртаюцца мужчыны, – эрэктыльная дысфункцыя (імпатэнцыя). Узнікаць яна можа ў любым узросце. У маёй практыцы быў 20-гадовы хлопец, які скардзіўся на праблемы з "мужчынскай сілай".

Па фізіялагічных прычынах праблемы з эрэкцыяй узнікаюць даволі рэдка – практычна ў 90% мужчын дысфункцыя носіць псіхагенны характар. Нават для абсалютна здаровага мужчыны няма гарантый 100-працэнтнага поспеху ў такім складаным працэсе, як палавы акт: адна ці нават некалькі "асечак" могуць здарыцца з кожным.

У такіх выпадках для мужчыны важная падтрымка жанчыны. Бо няўпэўненасць у сваіх сілах можа толькі пагоршыць сітуацыю. Чалавек ва ўзросце, сутыкнуўшыся з парушэннямі эрэкцыі, можа паставіць на сабе крыж як на мужчыну.

Некаторыя ў такіх сітуацыях звяртаюцца да дапамогі прэпаратаў, якія паляпшаюць эрэкцыю, не падазраючы, што перадазіроўкі могуць прывесці да цяжкіх наступстваў. Калі з'явілася "Віягра", да нас траплялі пацыенты з доўгай, хваравітай эрэкцыяй, ад 6 гадзін і больш.

Адным шанцавала – стан нармалізаваўся сам па сабе, іншым дапамагала толькі аператыўнае ўмяшанне. Былі і такія, хто ўводзіў у член папаверын. Вынік падобных эксперыментаў – пажыццёвая эрактыльная дысфункцыя.

### Для некаторых і два разы на тыдзень – шмат

Сёння прынята лічыць, што чым больш сэксу ў жыцці мужчыны, тым лепш. На самой справе, усё індывідуальна. Для кагосьці нормай можа быць сэкс тры разы на дзень, а для кагосьці і два разы на тыдзень – шмат. Галоўнае, каб палавое жыццё была рэгулярным.

Нагледзеўшыся фільмаў, мужчыны мяркуюць, што "чым даўжэй, тым лепш".

> **Медыкі лічаць нормай палавы акт, які доўжыцца 3,28 хвіліны.**

Больш за тое, запаволеная эякуляцыя – гэта захворванне, якое патрабуе лячэння.

Варта пазбягаць бязладных палавых сувязяў і сэксуальнага ўстрымання. У першым выпадку ёсць рызыка атрымаць інфекцыю. Доўгае ўстрыманне вядзе да застойных з'яў у прастаце і рызыцы развіцця запаленчых працэсаў.

### Здаровы мужчына – не гара мышцаў

Пра здароўе будучага мужчыны трэба клапаціцца з самага нараджэння. Некаторыя захворванні, не заўважаныя ў дзіцячым узросце, могуць прывесці да сур'ёзных праблем, аж да бясплоддзя. Тым, хто жадае як мага даўжэй захоўваць "мужчынскую сілу", я раю адмовіцца ад шкодных звычак, надаць увагу харчаванню і адарвацца ад канапы і манітораў камп'ютараў.

Займіцеся спортам. Даказана, што фізічныя нагрузкі паляпшаюць выпрацоўку тэстастэрону і паляпшаюць кровазварот у органах малога таза. Пазбягайце стрэсаў.

Калі пачалася дэпрэсія, знізілася жаданне – здайце аналіз крыві на ўсе віды тэстастэрону. Магчыма, спатрэбіцца андрагенная падтрымка. Заставайцеся сэксуальна актыўным.

У сталым узросце сэксуальнае жыццё напрамую звязанае з фізічным здароўем мужчыны. І памятайце, здаровы мужчына – гэта не гара мышцаў, а чалавек, які клапоціцца пра сваё здароўе.

Ірына ПЛЮТО, "Интекс-пресс", Баранавічы.

### ТОП прадуктаў, якія павышаюць узровень тэстастэрону:

- Тлустая рыба: селядзец, сайра, акунь, фарэль.
- Мяса: бараніна, індычына.
- Зяляніна: сельдэрэй, пятрушка, шпінат, кінза, рукала.
- Клятчатка і збожжавыя: кашы з ячных круп, проса і грэчкі.
- Свежыя гародніна і садавіна, пераважна аранжавага або зялёнага колеру: хурма, абрыкос, дыня, апельсін, капуста, брокалі.

## Змены ў сістэме выплаты пошліны за допуск да ўдзелу ў дарожным руху: калі чакаць?

"Я 60 гадоў за рулём. Але цяпер езджу не часта: на рынак, у паліклініку. Узімку машыну ўвогуле не браў. Але плачу гэту пошліну спраўна. А маладыя хлопцы з мяне смяюцца: а мы не плацім!" – расказаў чытач і папрасіў асвяжыць тэму.

У філіяле УП "Белтэхагляд" нам паведамілі, што пакуль навін няма і чакаць зменаў у сістэме выплаты дзяржпошліны за допуск да ўдзелу ў дарожным руху ў гэтым годзе не варта. Пра тое, што яны магчымыя не раней за 2019 год, калі Беларусь пройдзе чарговы пік выплат па знешнім абавязку, у лістападзе казаў і намеснік міністра фінансаў **Уладзіслаў Татарыновіч** падчас "прамой лініі".

А ў снежні старшыня пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па прамысловасці, паліўна-энергетычным комплексе, транспарце і сувязі **Андрэй Рыбак** у эфіры тэлеканала "Беларусь 1" паведаміў, што ў рэспубліцы падрыхтавалі праект указа па змене сістэмы транспартнага падатку. Адна з версій – памесячная выплата транспартнага збору. Пры ўняcенні яго за год і больш прапануецца ўвесці "зніжку".

Што тычыцца кантролю за выплатай транспартнага збору, то для гэтага хочуць задзейнічаць сістэму фотафіксацыі. Парадак яе прымянення будзе вызначаны ўказам.

Пошліну ўвялі ад 1 студзеня 2014 года па ініцыятыве дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ. А ў мінулым годзе з вуснаў дэпутатаў часта выказвалася крытыка на адрас дарожнага збору.

Летась у чэрвені, калі ўрад трымаў справаздачу перад парламентам аб праведзенай рабоце, дарожная тэма выклікала гарачае абмеркаванне.

Намеснік міністра фінансаў **Дзмітры Кійко** адказаў, што пераносіць дзейсную адзнаку аб тэхаглядзе новаму ўладальніку бясплатна Мінфін пакуль не гатовы.

Аднак да канца года гэта пытанне вырашыў Савет Міністраў. Ад 1 студзеня 2018 годзе пры змене ўладальніка машыны тэхагляд, калі ён сапраўдны, зноўку праходзіць не трэба.

Што тычыцца дзяржпошліны, то цяпер яе памер залежыць ад выгляду аўтамабіля, яго ўладальніка і дапушчальнай максімальнай масы. Пошліна за машыну да двух да трох тон для фізасобы складзе восем базавых, або 196 рублёў у год.

Людміла СЕЛЕХ, "Брестская газета".



"Прайшлі скрозь слёзы, непаразуменне. Некаторыя адмовіліся ад удзелу, але тыя, хто змог існаваць у гэтым спектаклі, вартыя самых лепшых слоў пахвалы". Фота Наталлі ТУР.

# "Я не хачу гэта слухаць! Я не хачу гэтага чуць!!!"

## У Малазечне адбылася прэм'ера спектакля па матывах кнігі Святланы Алексіевіч "Час Сэканд Хэнд".

**У суботу, 17 сакавіка, мастацкі кіраўнік Мінскага абласнога драматычнага тэатра Валер Анісенка, прадставіў на суд маладзечанскай публікі спектакль, які ён сам назваў дакументальнай драмай.**

У аснову сюжэта лягла кніга Нобелеўскага лаўрэата Святланы Алексіевіч "Час Сэканд Хэнд".

– У камунізму быў вар'яцкі план – перарабіць "старога" чалавека... І гэта атрымалася... можа, адзінае, што атрымалася. За семдзесят з лішнім гадоў у лабараторыі марксізму-ленінізму вывелі асобны чалавечы тып – homo soveticus. Адны лічаць, што гэта трагічны персанаж, іншыя называюць яго "саўком". Мне здаецца, я ведаю гэтага чалавека, ён мне добра знаёмы, я побач з ім, бок а бок пражыла шмат гадоў. Ён – гэта я. Гэта мае знаёмыя, сябры, бацькі. Некалькі гадоў я ездзіла па ўсім былым Савецкім Саюзе, таму што homo soveticus – гэта не толькі рускія, але і беларусы, туркмены, украінцы, казахі... Цяпер мы жывём у розных дзяржавах, гаворым на розных мовах, але нас ні з кім не пераблытаеш. Пазнаеш адразу! – спектакль пачынаецца словамі самой Святланы Алексіевіч, якія рэжысёр уклаў у вусны Алены Рахмангулавай.

Промаху са спектаклем быць не магло, бо ў пастаноўцы Валер Анісенка задзейнічаў амаль усю трупу тэатра – **Аляксей Карпец**, **Дзяніс Фешчанка**, **Барыс Донін**, **Эмілія Ларыёнава**, **Ірына Кляпацкая**, **Ірына Камышава**, **Людміла Рошчына**, **Павел Святоха**, **Сяргей Карзей**, **Тацццяна Карпец**, **Валер Бабкін** і **Кацярына Панедзька**.

Іх героі пачынаюць гаварыць, а перад табой паўстаюць карціны з таго Савецкага Саюза, пра які не раз даводзілася чуць ад мамы ці бабулі, бачыць па тэлебачанні ці чытаць у кнігах.

Усё вось так, натуральна, ад першай асобы. І пра Высоцкага, і пра Гагарына, і пра 1993 год, і пра 1937.

І пра тое, што Савецкі Саюз – самая жорсткая, бесчалавечная краіна, і пра тое, што самая светлая. Пра тое, што, акрамя чэргаў, нічога не было, затое была Радзіма. І песні былі самыя лепшыя, і святы самыя сапраўдныя.

Былі ў спектаклі моманты, пасля якіх услед за гераіняй Ірыны Кляпацкай хацела ўсклікнуць: Замаўчыце! Я не хачу чуць пра тое, як у Арменіі забівалі жанчын, жалезнымі прутамі выкалупвалі з жывата дзіця, якое яшчэ не нарадзілася. Пра тое, што дзеці ў сталінскіх лагерах баяліся станавіцца дарослымі, бо, калі ім спаўнялася пяць гадоў, іх адпраўлялі ў дзіцячыя дамы.

> **– Там нас вучылі, – гаворыць гераіня Эміліі Ларыёнавай, – што нам трэба любіць Сталіна і Радзіму. Што Радзіма – наша маці. А мы ўсе пыталіся: "А дзе МАЯ мама? Мама…"**

Хаця некаторыя героі і гаварылі, што ў Саюзе было добра, я ў спектаклі гэтага так і не ўбачыла. Нават сцэны з парадаў з лозунгамі, песня пра "кипучую, могучую" ўсё адно не пакідалі пачуцця шчасця, хутчэй безвыходнасці, радасці па графіку, па календары, радасці скрозь сціснутыя зубы.

Сачыла за рэакцыяй гледачоў у зале. Некаторыя плакалі, некаторыя падпявалі акцёрам камуністычныя песні, некаторыя проста не маглі зразумець, іронія гэта ці праўда, калі герой Сяргея Карзея казаў пра тое, што краіна або павінна быць вялікай, або проста не павінна існаваць.

Падчас спектакля не апладзіравалі. Не хацелася перашкаджаць тым, хто са сцэны дзяліўся самым патаемным.

Ды і хіба мы апладзіравалі б на кухні, калі б нам расказвалі пра тое, што вялікай радасцю былі талоны на шкарпэткі?

### "Акцёрская ігра сёння нікому непатрэбная"

Валер Анісенка расказаў, што калі спектакль правільна "заквашаны", то ён "паспявае" да 8-10 паказу.

– Канешне, не ўсё атрымалася ў ідэале, але я вельмі задаволены працай трупы. Акцёрская ігра цяпер нікому непатрэбная, тэатр стаў дакументальным, на сцэне трэба існаваць. Рыхтаваўся спектакль так. Я сказаў акцёрам: "Чытайце раман. І самі выбірайце сабе сюжэт, у якім вы будзеце існаваць". Прайшлі скрозь слёзы, непаразуменне. Некаторыя адмовіліся ад удзелу, але тыя, хто змог існаваць у гэтым спектаклі, вартыя самых лепшых слоў пахвалы.

На пытанне, ці запрашаў рэжысёр на прэм'еру Святлану Алексіевіч, Валер Анісенка адказаў:

– Мы з ёй знаёмыя з часу, калі я ставіў яе "Чарнобыльскую малітву". Але цяпер не змог датэлефанавацца да Святланы, магчыма, яна была за мяжой. Але, думаю, пісьменніца яшчэ ўбачыць на свае ўласныя вочы пастаноўку нашага тэатра. Вось тады і спытаемся, як ёй.

**Наталля ТУР.**



ТЭМА НУМАРА

# БНР у гісторыі маёй сям'і

**Брат майго дзеда яраслаўскі журналіст Павел Манцэвіч быў адным з вайсковых дзеячаў абвешчанай 100 гадоў таму Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Пра адно са сведчанняў гэтаму згадвае сёлета ў публікацыі "Генералы БНР" у газеце "Наша слова" гісторык **Леанід Лаўрэш**.

Ён піша, што ў 1918 годзе на Румынскім фронце для нацыяналізацыі былых падраздзяленняў расійскай арміі была створаная "Нацыянальна-тэрытарыяльная дэмакратычная арганізацыя фронту", у якую ўвайшлі камісары: ад УНР, армянскі, малдаўскі, польскі, мусульманскі, літоўскі, эстонскі, казачы, грузінскі, ад БНР (**Павел Данатавіч Манцэвіч**) і сібірскі. Гэта арганізацыя падрыхтавала загад аб нацыяналізацыі фронту, а камандуючы фронтам **Шчарбакоў** яго падпісаў.

## Сялянскі сын

Кім быў камісар Румынскага фронту ад БНР Манцэвіч?

Павел нарадзіўся ў 1882 годзе і быў адным з васьмі дзяцей селяніна Даната Паўлавіча (1846 г.н) і Алены Паўлаўны (з Турчынскіх), з мястэчка Іказнь Ковенскай губерні паблізу Браслава. Данат у маладосці быў удзельнікам паўстання Каліноўскага.

Павел, а затым яго браты **Іосіф** і **Флор** прайшлі навуку ў Полацкай настаўніцкай семінарыі.

Апынуўшыся ў Віцебску, Павел стаў працаваць у "Віцебскіх губернскіх навостях", быў, як піша даследчыца беларускага дарэвалюцыйнага друку **Святлана Сарока**, яе рэдактарам.

Праз нейкі час ён ужо жыве і працуе журналістам у Яраслаўлі. Не забываецца на сваіх бацькоў, братоў і сястру **Юлю**. У сямейным архіве захавалася фатаграфія Паўла, якую ён за год да пачатку Першай сусветнай вайны прыслалае з Яраслаўля сваім бацькам у Іказнь.

## Камісар Румынскага фронту

Перад вайной у жывых было двое братоў Паўла і сястра. І ўсе сыны Даната трапілі на фронт. Мой дзед Флор быў санітарам, Іосіф за баявыя заслугі быў удастоены трох ордэнаў, даслужыўся да штабс-капітана, быў намеснікам камандзіра палка. А Павел, як бачым, стаў ваенным камісарам Румынскага фронту ад БНР.

Леанід Лаўрэш заўважае, што нацыяналізацыя арміі была наступнай. З пяхотных дывізій усе рускія салдаты звальняліся ў адпачынак, пасля якога павінны былі з'явіцца да воінскіх начальнікаў па месцы жыхарства для прызначэння ў рускія часці. А салдаты іншых нацыянальнасцяў павінны былі з'явіцца ў свае нацыянальныя часці. 9 студзеня 1918 года загадам №1332 па фронце было абвешчана аб арганізацыі Беларускай Вайсковай Камісіі па арганізацыі беларускіх вайсковых часцей на Румынскім фронце. З гэтых часцей утварылася вайсковая сіла колькасцю звыш за 100 тысяч чалавек. Былі планы перапраўляць гэтыя часці на Радзіму, каб змяніць сітуацыю ў Беларусі. Аднак зрабіць гэта стала немагчымым з-за дзеянняў румынскіх улад. Беларускія часці былі імі разброеныя.

Беларуская армія ў Румыніі спыніла сваё існаванне.

## Тэлеграма на фронт

Леанід Лаўрэш піша, што шматмільённая маёмасць Беларускай арміі (толькі коней больш за 2 000), грузавых і пасажырскіх аўтамабіляў (каля 800), баявых прыпасаў, уніформы, складоў, гармат, ручной зброі і іншага было здадзена ў дэпазіт Румынскаму ўраду.

Народны Сакратарыят БНР рабіў захады, каб на будучыню захаваць для сябе ўсю гэту маёмасць. На фронт ад Сакратарыяту БНР ляціць тэлеграма наступнага зместу

*"Беларуская Народная Рэспубліка.*

*Народны Сэкрэтар'ят.*

*Беларускаму Камісару Румынскага фронту П. Д. Манцэвічу.*

*7 красавіка 1918 г.*

*№175.*

*Знаходзячаяся, на быўшым Румынскім фронце, маетнасьць і аружжа разьброеных беларускіх і беларусізаваных вайсковых часьцей Народны Сэкрэтар'ят Б.Н.Р. мае на мэце выкарыстаць для арганізаваньня на тэрыторыі Беларусі нацыянальных войск, калі варункі пазволяць гэта зрабіць (пасьля зьняцьця акупацыі).*

*На аснове вышэйпададзенага і згодна пастанове Народнага Сэкрэтар'яту Беларускай Народнай Рэспублікі ад 3 красавіка г. г. даручаецца Вам паведаміць аб гэтым адпаведным органам Румынскага Ураду, на быўшым Румынскім фронце, на той прыпадак, каб вышэйазначаная маетнасьць і аружжа, быўшых беларускіх часьцей, ня было перададзена іншым Урадам ці арганізацыям.*

*Старшыня Народнага Сэкрэтар'яту і Народны Сэкрэтар Зьнешніх Спраў Варонка.*

*Кіраўнік Справамі Народнага Сэкрэтар'яту*

*Л. Заяц."*

Лёс маёмасці арміі сёння невядомы.



Каля 1905 года. Мястэчка Іказнь каля Браслава. Будучы камісар Румынскага фронту Павел Манцэвіч сярод сваёй сям'і (другі рад, другі злева). Першы рад злева направа: бацька Данат, маці Алена, бабуля, невядомыя. Другі рад: Іосіф, Павел, Флор, Юлія.




1913 год. Павел Манцэвіч – рэдактар "Ярославскіх губернскіх новостей".




Адваротны бок здымка. Цёплыя словы да бацькоў.

## Раскіданыя лёсы

Павел Манцэвіч урэшце аказваецца ў савецкай Расіі, яго брат Іосіф – у Віцебску, Флор – на тэрыторыі Заходняй Беларусі, у Іказні, побач з бацькамі. Першы час паміж імі яшчэ была сувязь, прыходзілі паштоўкі. Пасля яна амаль знікла.

Сямейныя расказы сцвярджаюць, што на ўсю сцяну у доме Паўла ў Яраслаўлі быў намаляваны яго радавод ад дзядоў-прадзедаў. Калі ж у канцы 30-х брата Іосіфа высылаюць на будаўніцтва Беламорканала, Павел знішчае рысунак радавода. Дэманстрацыя радаводу станавілася смяротна небяспечнай.

Утрох браты ўжо ніколі не сустрэнуцца. Флор па даносе быў расстраляны немцамі ў 1941 годзе як дакладчык на Нацыянальным сходзе Заходняй Беларусі ў Беластоку ў 1939 годзе. Іосіфа высылаюць у Фергану, ён з цяжкасцю перажывае спачатку смерць жонкі, а затым гібель абодвух сыноў на фронце. Сям'я Паўла з часам аказваецца ў Горкім.

І сёння ў Ніжнім Ноўгарадзе жывуць нашчадкі камісара Румынскага фронту ад БНР Паўла Данатавіча Манцэвіча. На жаль, нашы сувязі пасля столькіх гістарычных катаклізмаў неяк ацішлі, перарваліся. Засталіся толькі старыя фатаграфіі. Але я спадзяюся, што мы знойдзем адзін аднаго дзеля памяці аб тых, хто змагаўся за нашу свабоду.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Вілейка.**

**Фота забяспечаныя аўтарам.**

● КАЛЯНДАР

## 23 САКАВІКА

**1865.** Нарадзіўся **Стары Улас** (сапраўднае прозвішча Уладзіслаў Сівы-Сівіцкі, 1865 – 1939), беларускі паэт, празаік, збіральнік беларускага фальклору. Нарадзіўся ў Валожыне.

## 24 САКАВІКА

**Сусветны дзень барацьбы з туберкулёзам.**

**1978.** 40 гадоў прайшло, як памёр **Рыгор Шырма**, беларускі харавы дырыжор, грамадскі дзеяч, у часы Заходняй Беларусі – сакратар Таварыства беларускай школы.

## 25 САКАВІКА

**100 гадоў** з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

**250 гадоў** з дня нараджэння **Адама Храптовіча** (1768 – 1844), асветніка, мецэната мастацтваў і навукі, ганаровага члена Віленскага ўніверсітэта. Сын Яўхіма Храптовіча. Быў візітатарам школ Віленскай акругі, старшынёй Таварыства дабрачыннасці, намеснікам старшыні Друкарскага таварыства ў Вільні. Удзельнік паўстання 1794 года. У сваіх уладаннях адмяніў цялесныя пакаранні прыгонных сялян, зменшыў іх павіннасці. У яго Шчорсаўскім маёнтку дзейнічала буйная пачатковая школа ўзаемнага навучання, дзе па стане на 1822 год займалася 350 вучняў з прыгонных, якія разам з элементарнай адукацыяй набывалі пэўныя навыкі вытворчай, рамеснай працы. Памёр і пахаваны ў Вішнёўцы (цяпер Смаргонскі раён).

## 28 САКАВІКА

**1985.** У французскім горадзе Сэн-Поль-дэ-Ванс памёр выдатны беларускі і французскі мастак **Марк Шагал.** Апроч графікі і жывапісу займаўся таксама сцэнаграфіяй, пісаў вершы на ідышы. Адзін з самых вядомых прадстаўнікоў мастацкага авангарду 20 стагоддзя. Нарадзіўся ў 1887 годзе. Паехаў у Парыж у 1910 годзе, дзе сыграў важную ролю ў развіцці школы кубізму. У 1914-м вярнуўся ў Віцебск. Пасля рэвалюцыі 1917 года быў прызначаны камісарам па мастацтве ў Віцебску, дзе заснаваў гарадское мастацкае вучылішча. У 1920-м паехаў у Маскву, адтуль – у Парыж. Калі пачалася Другая сусветная вайна, з жонкай пераехаў у ЗША. У 1944 жонка памерла, пасля чаго ён некалькі гадоў не маляваў. У 1960-х стварыў вітражы для медыцынскага цэнтра Хадаскага ўніверсітэта ў Ерусаліме і пасля ствараў іх па ўсім свеце.

## 30 САКАВІКА

**1940.** Нарадзіўся **Аляксей Марачкін**, беларускі жывапісца, педагог.

# Маю права

**Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзеленыя розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.**

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.

# “Ахвяраў гвалту, якія нічога не хочуць мяняць, мне не шкада”

**Ці можа жанчына зарабляць больш, а мужчына ісці ў дэкрэтны, ці ўсім трэба дзеці, хто нясе адказнасць за сям’ю і як жывецца жанчынам-кіраўнікам.**

На гэтыя пытанні мы шукалі адказы падчас круглага стала “Гендарная роўнасць у жыцці і ў законах”.

Тэму абмяркоўвалі намеснік загадчыка Маладзечанскага тэрытарыяльнага цэнтра сацабслугоўвання насельніцтва **Іна Мянцюк**, дырэктар ПУП “АўтаЮніёнСэрвіс”, кандыдат у дэпутаты Маладзечанскага раённага Савета дэпутатаў 28-га склікання **Кацярына Шытыка**, а таксама фатограф **Вольга Жарская**. Мадэратар размовы – журналістка **Аксана Ярашонак**.

## Што адбываецца ў сем’ях

**Ярашонак**: Якія тыповыя сцэнарыі сямейнага гвалту?

**Жарская**: З традыцыйным гвалтам я не сутыкалася. Для мяне гвалт у сям’і – гатаваць ежу, калі няма ніякага жадання. Тады нічога не атрымоўваецца! Мучаюся, усе мучаюцца, і ежа нясмачная. Прыгадваю тады рубрыку вашай газеты “Як зварыш – так і з’ясі”. Гвалт – падымацца ў 6-7 раніцы.

**Мянцюк**: З такімі сітуацыямі працуюць нашы псіхолагі. І дагэтуль ананімна – жанчынам цяжка прыйсці і адкрыцца. Ёсць жанчыны, якія церпяць у сям’і сэксуальны гвалт. Але гэта рэдкі выпадак. Больш распаўсюджана, калі мужчыны п’юць, і адбываецца сямейна-бытавы гвалт. Пакутуюць дзеці, уключаныя сваякі.

А вось ахвяры несямейнага згвалтавання – ні адна ў горадзе да нас не звярнулася па псіхалагічную дапамогу.

**Жарская**: Дапамога ахвяры павінна быць прафесійнай, плакаць у камізэльку недастаткова. Сябры выслухаюць, стане лягчэй, і ідзеш дамоў цярпець гвалт далей. Тут патрэбныя вельмі рашучыя крокі. Але зрабіць іх неабходна правільна і граматна, без лішніх стрэсаў для сям’і, асабліва для дзяцей. І без непатрэбных страт.

**Ярашонак**: Ці сутыкаліся вы з гвалтам жанчыны да мужчыны?

**Мянцюк**: Напэўна, нават калі такое ёсць, яны не могуць прызнаць.

**Ярашонак**: Як вы ставіцеся да пазіцыі, што ахвяра згвалтавання сама вінаватая, таму што была нецвярозая і ў кароткай спадніцы?

**Мянцюк**: У згвалтаванні вінаваты гвалтаўнік, у грабяжы – злодзей. Як сябе паводзіць і выглядаць – права кожнага. А гвалт – дзеянне супраць волі ахвяры.

**Шытыка**: Нядаўна ўсе абмяркоўвалі Шурыгіну, “на донышке” каторая. Як жанчына пакажа суду, гэта быў сэкс ці гвалт, так і вырашаць. Вельмі страшна, калі трапляюцца маньякі. Але ёсць кампаніі, збіраюцца, усё было добраахвотна, а пасля проста маме страшна прызнацца.

## Чаму жанчыны церпяць гвалт

**Ярашонак**: Які партрэт ахвяры гвалту?

**Мянцюк**: Пераважна гэта жанчыны, якія не могуць жыць без мужчыны. Калі жанчына незалежная, мае падтрымку ад блізкіх, то можа ад агрэсара сысці. Але большасць ахвяр не маюць спецыяльнасці, няўпэўненыя ў сабе, баяцца, што калі застануцца без мужчыны, то не змогуць пракарміць сям’ю.

Гэта непрадказальная з’ява, у любой сям’і можа адбыцца гвалт. Бывае, жанчына працуе на двух работах, корміць сям’ю, а муж, які, з майго пункту гледжання, нават яе не варты, дома праводзіць свае ахвярныя рытуалы.

Калі звяртаецца ахвяра сямейна-бытавога гвалту, мы адсяляем яе ў крызісны пакой, далучаецца міліцыя. Адрас пакоя засакрэчаны.

Бывае, жанчына ў крызісным пакоі, ёй знайшлі новую працу, куды пераехаць, усё гатова, але ёй раптам стала шкада мужа. Вяртаецца, у іх зноў сям’я. Толькі адзінкі карыстаюцца паслугамі крызіснага пакоя.

**Звярнуцца ў Маладзечанскі тэрытарыяльны цэнтр сацабслугоўвання інвалідаў можна па адрасе: Маладзечна, Таўлая, 4. Ці па тэлефонах: (80176) 77-21-50, 74-66-20.**

**Шытыка**: Мне такіх жанчын не шкада. Яны самі выбралі свой шлях. Я часта з такімі сутыкалася. Скардзяцца, жаліцца. Прапаную дапамагчы з працай, грашыма – адмаўляюцца.

**Мянцюк**: Яны кахаюць сваіх мужоў. Спачатку ўсё добра, пасля пачынаецца непрыемнае, але яны па-ранейшаму любяць.

**Шытыка**: Сябе я таксама люблю.

**Мянцюк**: Яна лічыць, што муж без яе прападзе.

**Шытыка**: Ну, і хай сабе. Можна многае перажыць – крызісы, матэрыяльныя складанасці. Мы з мужам увогуле пачыналі – ён кіроўца, я медсястра. Я заўсёды падтрымлівала. Але калі б справа дайшла да збівання, і гэта бачылі б дзеці – я ніколі б не засталася. Я люблю сябе, люблю дзяцей. І не важна, кім бы я працавала на той момант.

**Мянцюк**: Я ведаю адну сям’ю, здавалася ўзорнай. Тата і мама – два інтэлігентныя чалавекі, дзіця ў садок разам прывялі, разам забралі. Пасля сустракаю гэту жанчыну – кажа, з сям’і сышоў муж. Не магла паверыць. Праз нейкі час зноў сустрэліся, кажа, муж вярнуўся. Сам? Не, яна пайшла туды, да іншай жанчыны, сказала: “Збірай чамаданы, няма чаго гадаваць чужых дзяцей, свае дома не гадаваныя”.

## Чаго баяцца жанчыны

**Ярашонак**: Тое, што ў крызісны пакой звярнулася мала жанчын – можа, яны баяцца?

**Жарская**: Страх застацца адной, без грошай, жылля, калі няма куды пайсці. Страх, што адносіны з боку крыўдзіцеля стануць яшчэ горшымі, пагрозы расправай. Баяцца з-за пагроз, стэрэатыпаў і грамадскага меркавання. Вельмі складана зрабіць крок, расказаць усё, звярнуцца па дапамогу. Страшна застацца непачутай і незразумелай. Але зрабіць гэта трэба, перасіліць сябе, амбіцыі, правілы, страхі і сорам.

**Мянцюк**: Па дапамогу псіхолага пераважна звяртаюцца жанчыны, у якіх не ўсё так крытычна. Калі жанчына сябе паважае, яна не дазволіць так да сябе ставіцца. А сем’і, дзе здараецца гвалт, звычайна ўжо стаяць у сацыяльна небяспечным становішчы, і звычайна і ў мужа, і ў жонкі аднолькавы лад жыцця.

**Шытыка**: Напэўна, такую сітуацыю могуць змяніць толькі дзеці.

**Мянцюк**: Не ўсім патрэбныя дзеці. Некаторыя іх нават не наведваюць у прытулку. А іншыя гатовы змагацца дзеля дзяцей.

Некаторыя жанчыны, калі выклікаюць на мужа міліцыю, спадзяюцца, што яго пакараюць і ён адразу стане лепшым. Але ён не стане лепшым. Неразумна на гэта спадзявацца.

Жанчыны вельмі баяцца, што пра іх праблему ўсе будуць ведаць. Ім хочацца, каб іх сям’я выглядала ідэальнай. Баяцца, што скажуць, нібы б’е, таму што яна нешта робіць няправільна.

**Шытыка**: І яшчэ сваякі могуць казаць: нічога, мы ўсё жыццё пражылі, не разводзіліся, а табе чаго. І так закладаецца ў выхаванне дзяўчынкі, што трэба маўчаць і жыць, як усе жывуць.

**Мянцюк**: У нас была шматдзетная мама, якая вяла асацыяльны лад жыцця, дзяцей то аддавалі ў СПЦ, то вярталі. Яе дачка рана нарадзіла, і складваецца ўсё гэтак жа. Звычайна дзеці жывуць так, як жылі бацькі.

Мы вучым дзяцей, што трэба нечага дасягнуць, зарэкамендаваць сябе, паважліва ставіцца да іншых. У такіх сем’ях гэтага няма – мне ўсе павінны, дзяржава мне абавязаная.




Фота Наталлі ТУР.

Іна Мянцюк.



Фота Ігара ТОПІНА.

Вольга Жарская.



Фота Наталлі ТУР.

Кацярына Шытыка.

## Жанчынам не хапае смеласці і самапавагі

**Ярашонак**: Якіх ведаў не хапае жанчынам, каб абараніць сябе?

**Жарская**: Не хапае любові і павагі да сябе. Калі ёсць цвёрдае жаданне цярпець і быць ахвярай – гэта адно. Іншае – палюбіць сябе і зрабіць правільны крок. Кажуць, што калі чалавек церпіць, значыць, яму гэта зручна, значыць, яшчэ можа цярпець. Жорстка, але гэта праўда.

**Мянцюк**: Напэўна, нашым жанчынам не хапае смеласці, а не ведаў. Веды цяпер атрымаць не праблема. Другая праблема – лянота заступіцца за самога сябе. А калі хто хоча штосьці змяніць, то ўсё ў яго руках.

**Ярашонак**: Ці дастаткова дасканалае заканадаўства ў адносінах да жанчыны? Калі на бацькоўскім сходзе выступае міліцыянер і кажа: не цярпіце, калі муж б’е, тэлефануйце. А на наступным выступае сацпедагог і кажа: “Мамы, добра падумайце, ці званіць у міліцыю. Ну, пасварыліся з му-



Удзельніцы круглага стала пагаджаюцца браць на сябе большую адказнасць за сям'ю, чым мужчыны.

жам – чаго не бывае. А пасля аднаго званка сям'ю паставяць у сацыяльна-небяспечнае становішча”.

**Мянцюк**: Тое, што ставяць на ўлік – зразумела. Калі чалавек пазваніў, то ясна, што гэта быў не разавы выпадак. А за дзіцем трэба назіраць. Таму што калі нехта з дзяцей расце пры пастаянных скандалах, гэта адбіваецца на вучобе і здароўі, стэрэатыпе паводзінаў.

**Шытыка**: Замест таго, каб прызнаваць праблемы і вырашаць іх, жанчыны баяцца, што скажуць людзі, калі раптам даведаюцца, што сям'ю паставілі на ўлік.

**Мянцюк**: Мы адказваем за сваіх дзяцей, пакуль жывём. Мне 45 год, а мая мама штодзень цікавіцца, як я.

**Шытыка**: Усё залежыць ад жанчыны. І дабрабыт, і адносіны.

**Ярашонак**: А ад мужчыны?

**Шытыка**: Яго асноўная роля – здабытчык. Падключацца да выхавання дзяцей. Мне падаецца, жанчыны могуць узваліць на сябе нашмат больш, не кожны мужчына зможа цягнуць і работу, і сям'ю, і дзяцей.

## Жанчына-лідар – сцерва?

**Ярашонак**: Што вы скажаце пра стэрэатыпы, што жанчына-лідар – гэта мужчына “ў спадніцы”, не можа зарабляць больш за мужчын і што жанчына-кіраўнік менш кампетэнтная за калегу-мужчыну?

**Шытыка**: Жанчына-лідар ніколі не будзе “мужчынам у спадніцы”. Таму што і ў бізнесе, і ў сям'і яна ў першую чаргу ўключае сэрца. Імкнецца давесці сваю справу, як і сваё дзіця, да канчатковай мэты.

Незалежна ад таго, чым яна займаецца, жанчына заўсёды застаецца жанчынай.

**Ярашонак**: А наконт таго, што жанчына ў сям'і не можа зарабляць больш?

**Шытыка**: Калі гэта задавальняе і жанчыну, і мужчыну, то чаму не. Магчымы варыянт, калі мужчына займаецца гаспадаркай. Напрыклад, са здароўем нешта, і можа быць толькі дома.

Любая мудрая жанчына можа падтрымаць свайго мужа – дапамагчы знайсці новую прафесію, выбраць курсы ці дапамагчы адкрыць бізнес.

Жанчына – гэта шыя. Як паверне – так і будзе. Ад жанчыны залежыць вельмі многае. І калі яна будзе зарабляць больш, думаю, нічога кепскага ў гэтым няма.

**Ярашонак**: У сваім досведзе кіраўніцтва вы сутыкаліся з тым, што вас успрымалі неяк не так, як мужчыну-кіраўніка?

**Шытыка**: Я кірую шэсць год. Калі я заняла пасаду, была маладзейшая, і, напэўна, не ўсе ўспрымалі сур'ёзна. Некаторыя казалі: “Эй, дзяўчына, ідзі сюды”. Гэта аўтасэрвіс, і часам, калі трэба, апранаю спецадзенне, магу і з анучай у руках, і з гаечным ключом. І не заўсёды выглядаю, як дырэктар.

Сваёй значнасці дабіваешся ўчынкамі, дзеяннямі. Нашы кліенты пераважна мужчыны, як і нашы пастаўшчыкі, 16 супрацоўнікаў. Усмешка, узаемаразуменне – мой стыль кіраўніцтва даволі ліберальны. Я як матуля для калектыву. Напэўна, перавага жанчыны-дырэктара ў тым, што яна акрамя прафесійных якасцяў цікавіцца і асабістым жыццём. Таму калегі мне давяраюць.

А калі казаць пра кампетэнтнасць, то ў некаторых тэхнічных пытаннях я магу быць недастаткова кампетэнтнай, хаця веду тэхналагічныя працэсы ад шынамантажу да замены ГРМ. Але ёсць навучаныя спецыялісты – мой намеснік, майстар-прыёмшчык, слесары. Мая функцыя – наладзіць усю гэту сістэму, каб усё працавала без збою.

**Ярашонак**: Іна, вы таксама жанчына-кіраўнік. Што думаеце пра жанчын-лідараў?

**Мянцюк**: У нас з Кацярынай розныя умовы. На шчасце, што ў нас “у руля” стаіць дырэктар-мужчына. Таму што жанчыны крыху па-іншаму ўспрымаюць кіраўніка-жанчыну.

Калі нейкае валявое рашэнне прыме мужчына-дырэктар, гэта будзе гучаць як яго воля і мужнасць. Калі ж такое рашэнне прыме жанчына-кіраўнік, то будуць пагаворваць пра тое, што праскокваюць ноткі сцервы.

Галоўнае, каб чалавек разумеў, чым займаецца, і быў на сваім месцы.

## Палітыка – не для жанчын?

**Ярашонак**: Ці пагаджаецеся вы з меркаваннем, што палітыка – справа мужчын?

**Мянцюк**: Я з гэтым хутчэй пагаджуся. У нас, жанчын, нават мысленне іншае. Ёсць прыклады, тая ж Кацярына Вялікая, Індзіра Гандзі. Але палітыка бліжэй мужчынам.

**Шытыка**: Жанчыне-палітыку цяжэй. Даводзіцца такі цярністы шлях праходзіць. Бліжэйшы сучасны прыклад – прэзідэнт Літвы. Яна ведае пяць моў, вельмі адукаваная, чорны пояс па каратэ. А сям'і ў яе няма. Напэўна, яна сябе рэалізуе ў кар'еры, цяжкавата сумяшчаць і палітычную сферу, і сям'ю. Моцная жанчына-лідар будзе паспяваць усё, нават займацца палітыкай.

**Ярашонак**: Кацярына, вашы падначаленыя пераважна мужчыны, але ёсць і жанчыны. Калі да вас прыходзіць жанчына ўладкоўвацца на працу, вы задаяце пытанні пра тое, колькі ў яе дзяцей, ці плануе яна яшчэ нараджаць, ці замужам?

**Шытыка**: Я шукала бухгалтара. Месяц таму прыйшла 25-гадовая жанчына з вышэйшай адукацыяй, толькі выйшла з дэкрэтнага. Сказала, не выключана, што з'явіцца і другое дзіця. Як жанчына жанчыну я не магла яе не падтрымаць.

Магчыма, для мяне гэта не вялікая праблема, таму што сама веду бухгалтэрыю, змагу яе замяніць. Тым больш, што бальнічныя і дэкрэтныя аплачвае не працадаўца. А вось слесара я замяніць не змагла б. Хаця наўрад ці прыйдзе жанчына з такой прафесіяй.

## Машына – жаночая справа?

**Ярашонак**: Пры падрыхтоўцы да стала я правяла апытанне сярод знаёмых, дзе яны сутыкаліся з парушэннем правоў жанчын. Многія скардзіліся, што мужчыны ўспрымаюць жанчыну за рулём, як катастрофу.

**Мянцюк**: Катэгарычна нязгодная. У мяне больш за 15 год стажу кіроўцы. Жанчыны кіруюць машынай значна больш акуратна. У іх няма жадання пахваліцца перад пасажырамі хуткасцю.

На жаль, часам сустракаюцца п'яныя жанчыны-вадзіцелі. Але адказны чалавек будзе адказны і за рулём аўтамабіля.

**Шытыка**: Я рэдка ваджу. У мяне двое дзяцей, і сесці за руль, везці іх – такую адказнасць узяць на сябе я не магу. Але жанчыны дакладна не горш кіруюць.

## Тата ў дэкрэтным

**Ярашонак**: Ці падтрымліваеце вы стэрэатып, што ў дэкрэтны павінна ісці мама, з ёй дзіцяці лепш?

**Мянцюк**: Мая дачка, прыгадваючы дзяцінства, расказвае, як тата чытаў, насіў на руках. Дзеці павінны аб'ядноўваць сям'ю. І калі тата не ўдзельнічае ў выхаванні, то, вяртаючыся з працы, бачыць ускудлачаную жонку, дзіця, якое вечна раве, – такому бацьку працай сысці.

Лепш за ўсё, каб у дэкрэтным пароўну былі і мама, і тата. Сапраўды, зусім маленькаму немаўляці больш трэба мама. А ад паўтара да трох год цалкам можа спраўляцца бацька з выхаваннем, развіццём светапогляду.

Жанчыны пераважна зарабляюць меней, таму ў дэкрэт часцей ідуць яны.

**Шытыка**: Тут большую ролю адыгрывае матэрыяльны бок. Калі жанчына зарабляе больш, у дэкрэтны павінен ісці мужчына.

У брата трое дзетак, жонка была ў дэкрэтным. Ён звольніўся, і пачаліся канфлікты. А яе запрашалі на працу, яна добра зарабляе, але катэгарычна адмовілася. І толькі горш зрабіла сям'і. Хаця ён выдатна ладзіў з дзецьмі, даглядаў іх. Урэшце прыйшлі да таго, што яна выйшла на працу. І ў сям'і лад, і грошы былі.

**Ярашонак**: У немцаў ёсць старая прыказка, што жанчына – гэта дзеці, кухня і царква. Ці ёсць ў сучасным беларускім грамадстве нешта падобнае?

**Мянцюк**: Мы працуем са шматдзетнымі сем'ямі. Ёсць мамы, якія лічаць, што яны не павінны працаваць. Яна сябе прысвяціла дому і мужу. І яе гэта задавальняе. Бываюць сем'і, дзе мае працу і займае адказную пасаду. І таксама спраўляюцца, і ў доме ўтульнасць. Калі жанчына разумее, што гатовая на нешта большае, чым кухня і дзеці, то будзе рухацца наперад. Калі ж вырашыла, што няма нічога даражэй за сям'ю, гэта таксама правільна.

## Варыць суп і чакаць з працы?

**Ярашонак**: Вы згодныя быць адказнай за сям'ю больш за мужчыну?

**Шытыка**: Адназначна.

**Мянцюк**: Я так і раблю.

**Шытыка**: Калі святкавалі 8 Сакавіка, муж падняў тост і сказаў: “Я цябе паважаю за тое, што ты самадастатковая, паспяховая, мне з табой лёгка і цікава”. Ён не думае пра многія праблемы, ведае, што ўсё вырашу.

А калі ў сяброў жонкі сядзяць і крыжыкам вышываюць, глядзяць “Дом-2” і больш ні ў ва што не ўнікаюць, то бедныя іх мужчыны. Мы з маім раўнапраўныя партнёры ў сям'і, бізнесе, сябры. Калі побач жанчына, якая задавальняе ва ўсіх ролях, ён не бегае і не шукае нешта іншае. А вось такія, што сядзяць дома, няўпэўненыя, ім нічога не трэба, супу наварыла, чакае мужа з работы. Ці цвярозы прыйдзе, ці п'яны – такія і атрымліваюць гвалт.

**Ярашонак**: Але ж супу наварыць таксама трэба.

**Шытыка**: Вару. Але ці гэтым абмяжоўвацца – выбар кожнага. Жыццё адно.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

**Даведка “РГ”. ГРМ** – газаразмеркавальны механізм для кіравання газавымі патокамі ў цыліндры рухавіка ўнутранага згарання.

ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ, ПЕДАГОГАМ (ВЫПУСК 8)

# Пешка – вучым усе хітрыкі

**З пешкамі і лёгка, і цяжка. Ходзяць прама, б'юць наўскасяк. Калі даходзяць да восьмай гарызанталі – ператвараюцца ў любую фігуру, але, часцей за ўсё, – у наймацнейшую, ферзя.**





Звалім усю гэту інфармацыю на дзіця адразу – парушым псіхіку. Пачнём з малога – ходзіць прама, а б'е наўскасяк. Калі яшчэ на першым уроку распавесці пра правіла "ўзяцце на праходзе", але іншы раз дзеці і пасля некалькіх гадоў заняткаў яго не засвойваюць, – тады сапраўды можна ўжо далей нічога не расказваць.

Бяром у дапамогу фрагменты дошкі – і паказваем, задаём пытанні, атрымліваем, выпраўляем, паказваем, і... гуляем, гуляем, гуляем!

Як можа пайсці або пабіць пешка – белая, а потым і чорная?



І ўжо пасля разбору "палётаў" – тэматычны турнір на замацаванне ходаў пешкі. Глядзіце! У нас у арсенале ёсць усё чатыры фігуры, і мы можам, у прынцыпе, разыграць даволі складаную пазіцыю:



Але можна і прасцей. З гэтых пазіцый правядзіце некалькі турніраў.



Такіх пазіцый можна прыдумваць мноства. Галоўнае, каб дзецям было цікава гуляць і яны рабілі правільна хады фігурамі. Дзеці павінны імкнуцца нападаць на фігуры саперніка і, калі тыя будуць пад боем, правільна збіваць. Перамагае той, хто саб'е ўсе фігуры саперніка. Калі дзеці добра нападаюць, правільна адводзяць свае фігуры ад бою – смела давайце абодвум сапернікам па ачку. Калі бачыце, што ў дзіцяці ўсё атрымалася добра, – дайце два ачкі.

Асобна пра сістэму заахвочванняў. Зрабіце шмат-шмат розных заахвочвальных санеек, зорачак з кардону. Раздавайце дзецям за добрыя хады, партыі, правільныя рашэнні. У канцы ўрока можаце сабраць, палічыць і ўсіхусіх пахваліць! Дзеці вельмі любяць, калі іх хваляць. Не забывайце пра гэта.

### Не прапусціце конкурс

Віталь Качаткоў рыхтуе да друку кнігу-дапаможнік пра тое, як навучыць шахматам дашкольнікаў.

Дасылайце любыя дзіцячыя малюнкі на тэму шахмат у рэдакцыю на адрас: 222310, Вялікі Гасцінец, 143/518 з пазнакай "Конкурс малюнкаў пра шахматы". Маляваць можа хто заўгодна, даслаць можна адначасова некалькі малюнкаў.

Галоўная ўмова – малюнак павінны паказваць любое шахматнае правіла.

Усіх удзельнікаў чакаюць памятныя падарункі. Віталь Качаткоў абярэ сярод дасланых малюнкаў тыя, што размесціць пасля ў кніжцы.



Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.




Ідзе матч паміж "Энергетыкам-БДУ" і "Смаргонню".

# ФК "Смаргонь" прайграе спарынгі

СМАРГОНЬ

**ФК "Смаргонь" праводзіць спарынгі ў межах міжсезоннай падрыхтоўкі.**

У гродзенскім футбольным манежы 10 сакавіка смаргонцы гулялі супраць дублюючага складу "Нёмана". Смаргонцы прайгралі 1:3.

У пасляматчавым інтэрв'ю галоўны трэнер ФК "Смаргонь" **Мікалай Гергель** падвёў прамежкавыя вынікі падрыхтоўкі:

– Пакуль я папрацаваў з камандай толькі некалькі дзён. Для сябе магу адзначыць, што каманда толькі ўцягнулася ў працу. Галоўнае, што патэнцыял у футбалістаў ёсць. Я задаволены хлопцамі, іх стаўленнем да сваёй працы. Бачу, што ў іх ёсць жаданне трэніравацца. Калі мы закрыем прабелы ў складзе, то ёсць час дагнаць упушчанае. Адзіны мінус – з-за ўмоў надвор'я пакуль парушаны паўнавартасны трэніровачны працэс, – прыводзяць яго словы на афіцыйным сайце клуба.

Наступны спарынг "Смаргонь" правяла ў Мінску супраць сталічнага "Энергетыка-БДУ" 17 сакавіка. Зноў смаргонцы прайгралі 0:1. Гол прапусцілі у пачатку другога тайма.

**Аддзел інфармацыі.**

## "Ашмяны-БДУФК" згулялі ўнічыю з "Мінскам"

АШМЯНЫ

Таварыскі матч адбыўся 11 сакавіка ў сталіцы. Ашмянская каманда вызначылася першай – гол з пенальці на 27-й хвіліне забіў **Дзмітры Купнеўскі**, праз хвіліну гаспадары зраўнялі лік. Ён не змяніўся да канца матча: 1:1.

## "Мядзведзі" і "Атам" перамаглі

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

У чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па міні-футболе адбыліся чарговыя матчы. У гульні за 5-6 месцы "Ашмяны" дома 17 сакавіка сустракаліся з "Мядзведзямі" са Смаргоні. Смаргонцы выйгралі 8:2. Лепшым гульцом у складзе "Ашмянаў" стаў **Яўген Кухарчук**, у "Мядзведзяў" – **Міхаіл Калітовіч**.

Звышгулявым выдаўся матч за 7-8 месцы паміж "Атамам" з Астраўца і "Навагрудкам", які прайшоў 18 сакавіка. Астраўчане выйгралі 17:10. Шэсць галоў забіў у іх **Дзмітры Кузьмянкоў**. Ён жа прызнаны лепшым гульцом у складзе "Атама".

## Каманды з рэгіёна ўдзельнічалі ў марафоне "Будзь здаровы!"

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН, МЯДЗЕЛ

Занальны тур абласнога этапу 5-га рэспубліканскага спартыўна-патрыятычнага марафону "Будзь здаровы!" прайшоў 17 сакавіка ў Маладзечне. Марафон уключаў у сябе конкурс каманд падтрымкі, турнір па піянерболе і піянерскі чэмпіянат Беларусі па гарадках.

Маладзечна прымала гасцей з Вілейскага, Валожынскага, Лагойскага, Мінскага і Мядзельскага раёнаў. Пераможцамі з прадстаўнікоў Маладзечанскага раёна сталі каманда па гарадках сярэдняй школы №2 Маладзечна і каманды падтрымкі "Талісман" сярэдняй школы №14 Маладзечна і "Зоркі" Лебедзеўскай сярэдняй школы, паведамляе суполка "Моладзь Маладзечаншчыны" Укантакце.

Пераможцы занальнага тура выступяць на абласным этапе марафону. Пройдзе ён 24 сакавіка ў Фаніпалі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Сярэбраныя медалі астравецкіх барцоў

АСТРАВЕЦ

Каманда Астравецкага раёна заняла трэцяе месца на алімпійскіх днях моладзі Гродзенскай вобласці па грэка-рымскай барацьбе сярод юнакоў 2001-2003 гадоў нараджэння.

Выхаванцы трэнера Астравецкай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы алімпійскага рэзерву **Рамана Багданёнка** з кожным годам заваёўваюць усё больш месцаў на ганаровым п'едэстале абласнога ўзроўню. Падчас алімпійскіх дзён моладзі чацвёра з васьмі ўдзельнікаў астравецкай каманды вярнуліся на радзіму не з пустымі рукамі. Сярэбраныя медалі ў розных вагавых катэгорыях заваявалі **Арцём Мацкойць**, **Максім Лобач**, **Арцём Куцько** і **Андрэй Сцефановіч**, а **Кірыл Глаўноў** увайшоў у пяцёрку лепшых.

## Прайшлі спаборніцтвы па дартсе

ВІЛЕЙКА

У басейне "Сатурн" адбыліся першыя адкрытыя спаборніцтвы па дартсе.

Пра гэта распавёў арганізатар спаборніцтваў **Міхаіл Шульжыцкі**.

– Гэта не простыя спаборніцтвы, а трохбор'е. Удзельнікі пазмагаліся ў дыяганалі, раўндзе і мішэнях.

У спаборніцтвах удзельнічалі сем мужчын і тры жанчыны.

Па выніках спаборніцтваў першае месца ў мужчын заняў Міхаіл Шульжыцкі. Другое – **Яўген Кажарновіч**, трэцяе – **Юры Кандратовіч**.

У жанчын перамагла **Наталля Стаўская**.

Усе пераможцы атрымалі падарункі.

Спаборніцтвы плануюць праводзіць і ў Маладзечне.

**Наталля ТУР.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Месца, дзе звязаныя канцы або зацягнутая пятля.
4. Гіпакрат лічыў, што яны з'яўляюцца ў людзей з-за малака.
7. Менавіта гэты прадукт – аснова большасці страў румынскай кухні.
9. Колькасць экзэмпляраў друкаванага выдання аднаго выпуску.
11. Колеравы нюанс.
12. Тое, што ўпрыгожвае.
14. У гэтым рэгіёне Расіі больш за васемсот ледавікоў.
18. Напітак з соку ягад або фруктаў.
19. Шкілет галавы пазваночных і чалавека.
20. Аблямоўка, вузкая палоска, якая акаймоўвае.
22. На гербе гэтага беларускага горада – у правым полі залаты леў, павернуты ўправа, а ў левым – два перакрыжаваныя залатыя ключы.
23. Што за фрукт быў тым самым "залатым яблыкам" са старажытнагрэчаскай легенды пра Геркулеса.
25. Гэты знакаміты ўкраінскі пісьменнік катаў шарыкі з хлеба ці еў салодкае, калі працаваў над шэдэўрамі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Дэкаратыўная пакаёвая расліна.
3. Спецыяльнае памяшканне, дзе мыюцца і парацца.
5. Рэчыва з тлушчу і шчолачы, якое лёгка распускаецца ў вадзе і ўжываецца для мыцця.
6. Цяжар цела.
8. Дэкадэнцкі напрамак у архітэктуры, дэкаратыўным і выяўленчым мастацтве ў канцы 19 – пачатку 20 ст., які характарызаваўся манернасцю, замысλаватасцю, фармалістычнасцю.
9. Рухавік, які ператварае кінетычную энергію вады, пары, газу ў механічную работу.
10. Асобіна жывёлін або раслін, якая ўзнікае ў выніку мутацыі.
13. Звязаны пучок галінак для парылкі ў лазні, падмятання падлогі.
14. Набажэнства ў хрысціян, якое адбываецца раніцай або днём.
15. Раздзел фізікі, які вывучае святло, яго законы і ўласцівасці.
16. Часовая стаянка войска ў палявых умовах, а таксама войска, размешчанага такім чынам.
17. Стан крайняй безнадзейнасці, упадку духу з прычыны гора, непрыемнасці.
18. Агародная культура сямейства парасонавых з саладкаватым аранжавага колеру караняплодам.
21. Статак, гурт свойскай або дзікай жывёлы.
24. Сельскае паселішча.

## Адказы на крыжаванку з №11

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Дарма. 4. Аўторак. 7. Шакалад. 10. Аспірын. 13. Артэрыя. 14. Сажалка. 15. Няёмка. 16. Арэапаг. 19. Саланіна. 22. Дзевер. 26. Даўно. 27. Ахайны. 28. Шампанскае.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Дамасед. 3. Шпацыр. 5. Нітка. 6. Дакумент. 8. Шкода. 9. Самакат. 11. Нехта. 12. Мазыр. 17. Сальда. 18. Ачаг. 20. Вясне. 21. Ашалець. 23. Неруш. 24. Недахоп. 25. Шашок.

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА САКАВІК**

**У ДНІ ВЯСЕННІХ КАНІКУЛАЎ**

**"Казка пра чырвоную стужачку"** 6+ (вясёлыя прыгоды для дзяцей і дарослых), *Галіна Латышава, Алег Чэчанеў*

27 сакавіка – у 10:30

**"Тайна вострава людаедаў"** 6+ (піяцкі трылер у адной дзеі), *Дамір Салімзянаў*

28 сакавіка – у 10:30

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ ДА СУСВЕТНАГА ДНЯ ТЭАТРА**

**"Плачу наперад"** 16+ (камедыя ў 2-х дзеях), *Надзея Птушкіна*

27 сакавіка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.***

Кантактныя тэлефоны:
**52-30-66** – намеснік дырэктара,
**52-30-68** – галоўны адміністратар,
**52-30-65** – каса.
E-mail: modt@tut.by,
www.theatre-modt.by

УНП 600066659

## ГАРАСКОП 23-30 САКАВІКА



**АВЕН.** Беганіна і паспешнасць пасяліліся ў вашым жыцці. Так шмат усяго трэба зрабіць, а за што ўзяцца – незразумела. Не спяшайцеся, вырашайце адно пытанне за другім, пакуль усе не вырашацца.



**ЦЯЛЕЦ.** Калі ад вас запатрабуюцца сілы і сур'ёзнае напружанне, то крыніцу энергіі шукайце не ў знешніх атрыбутах і іншых людзях, а ў сабе. Галоўнае, зразумець, для чаго гэта вам трэба, што гэта вам дасць, настройцеся на патрэбны лад.



**БЛІЗНЯТЫ.** Прысвяціце дні зараблянню грошай, абуладкаванню жылля, рамонту і іншым дзеянням, якія звязаныя з павышэннем свайго матэрыяльнага ўзроўню.



**РАК.** Вам трэба будзе зрабіць важны выбар. Вы даўно чакалі нейкай прапановы і хутка яе атрымаеце. Рашыцца будзе не проста, вас будуць апаноўваць сумненні, але ўсё ж зможаце вызначыцца. Вы станеце карыстацца аўтарытэтам, добра праявіце сябе з ўладнага боку. Заведзеныя цяпер знаёмствы будуць мець доўгатэрміновае значэнне ў вашым жыцці.



**ЛЕЎ.** Вы спрабуеце ўсе пытанні вырашыць пры дапамозе банальнага лагічнага мыслення. Але, здараецца, лёс патрабуе зусім іншых дзеянняў. Навучыцеся адпускаць падзеі ў самастойнае плаванне. Каб не сапсаваць адносіны з навакольнымі, каб не пацярпеў ваш фінансавы стан, будзьце асцярожныя ў словах, не такія імпульсіўныя ва ўчынках.



**ДЗЕВА.** Вам у спробах развіць сваё ўласнае жыццё перашкаджае адмоўны бок вашай натуры. Стрымлівайце сябе, каб не сысці да высвятлення адносін і пошуку вінаватых і тых, хто мае рацыю.



**ШАЛІ.** Магчымыя перажыванні, рознагалоссі і расставанні не такія і страшныя. Проста ваша шчасце знаходзіцца ў іншым месцы, і вам неабходна пакінуць тое, што вас турбуе, і спакойна, без болю ў сэрцы, пайсці далей. Памятайце: дарогу асіліць той, хто ідзе. Не варта спыняцца на паўшляху.



**СКАРПІЁН.** Будзьце ўважлівыя пры паходзе ў магазіны, не накупляйце непатрэбных рэчаў, каб пасля не шкадавалі. Не паддавайцеся дрэннаму настрою, памятайце, што ў жыцці ўсё так хутка мяняецца: сёння – так, а заўтра – гэтак.



**СТРАЛЕЦ.** Вас чакаюць сур'ёзныя перамены. Вам лепш заняць пазіцыю чакання, пакуль сітуацыя складзецца спрыяльным чынам. Вы можаце атрымаць параду звыш, яна можа прыйсці як азарэнне ці ў сне.



**КАЗЯРОГ.** У вырашэнні любога пытання прыслухоўвайцеся да свайго сэрца, умейце пачуць, што "кажа" інтуіцыя, развівайце яе, і тады ў вас многія пытанні вырашацца самі па сабе.



**ВАДАЛЕЙ.** Многа радасных падзей наведае вас у доме, перш за ўсё, эмацыйных. Часам радасць можа быць нічым не абумоўленая, але хіба патрэбныя такому пачуццю нейкія доказы і прадпасылкі.



**РЫБЫ.** Калі вам хочацца змяніць жыццё – пачынайце з малога. Часцей прыслухоўвайцеся да свайго ўнутранага голасу, ён у гэтыя дні будзе асабліва моцны і праўдзівы. А вось ад парадаў навакольных, насупраць, будзе мала карысці, да таго ж яны ніяк не звязаныя з вашымі сапраўднымі імкненнямі і жаданнямі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | | | | 3 | | 2 | | 9 |
| | 3 | | 6 | 2 | 9 | | | |
| | | 9 | | 4 | | | 5 | 3 |
| | 9 | | | 8 | | 7 | | 1 |
| 3 | | 1 | | 5 | 2 | | | |
| 4 | 7 | 2 | | | | | | |
| 6 | | | | | 5 | | | 7 |
| 1 | | | | | 4 | | | |
| | | | | 6 | 8 | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | 6 | 4 | 5 | 3 | 1 | 2 | 7 | 9 |
| 7 | 3 | 5 | 6 | 2 | 9 | 4 | 1 | 8 |
| 2 | 1 | 9 | 8 | 4 | 7 | 6 | 5 | 3 |
| 5 | 9 | 6 | 4 | 8 | 3 | 7 | 2 | 1 |
| 3 | 8 | 1 | 7 | 5 | 2 | 9 | 6 | 4 |
| 4 | 7 | 2 | 9 | 1 | 6 | 8 | 3 | 5 |
| 6 | 4 | 3 | 2 | 9 | 5 | 1 | 8 | 7 |
| 1 | 2 | 8 | 3 | 7 | 4 | 5 | 9 | 6 |
| 9 | 5 | 7 | 1 | 6 | 8 | 3 | 4 | 2 |

Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

### 24 сакавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -3 | | -5 | | -4 | | -1 | |
| | +1 | | -1 | | +4 | | +4 | |
| | 733 | ↘ 5 | 737 | ↙ 1 | 739 | ↗ 6 | 737 | ↗ 5 |
| Вільня | -2 | | -5 | | -3 | | -1 | |
| | +2 | | +3 | | +6 | | +6 | |
| | 741 | ↘ 4 | 743 | ↘ 3 | 744 | ↗ 6 | 743 | → 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 7.03
Захад 19.34
Даўжыня дня 12.31

Усход 11.04
Захад 2.42
Квадра 2

| Горад | Мін. | Макс. | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|---|
| Віцебск | -6 | +1 | 745 | → 2 |
| Гродна | -5 | +3 | 747 | ↑ 2 |
| Мінск | -5 | -1 | 737 | ↙ 1 |
| Магілёў | -5 | 0 | 744 | ↓ 2 |
| Брэст | 0 | +3 | 745 | ↗ 1 |
| Гомель | -4 | 0 | 746 | ↙ 4 |

## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -17 °С у 1984 годзе
Максімальная тэмпература +13,7 °С у 2014 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 11,9 мм у 2005 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

- Якія планы на гэты год у аддзела архітэктуры Вілейскага райвыканкама? У наступным нумары чытайце, колькі дамоў у Вілейцы плануюць пабудаваць, а ў якіх зробяць капітальны рамонт.



## Чытайце пра родны край на роднай мове! Падпішыцеся!

**Падпісацца можна:**

✓ праз сайт "Белпошты".

Зарэгіструйцеся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем "афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі", выбіраем "Алфавітны". Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цінем літару "Р", справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – "Рэгіянальная газета".

✓ на пошце,
✓ праз паштальёна
✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 50 капеек, на тры месяцы – 10 рублёў 50 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 10 рублёў, на 3 месяцы – 30 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:*
*63212 (індывідуальная),*
*632122 (ведамасная падпіска).*





## ПРОСТА АНЕКДОТ

Сямейная размова.
Муж:
– Я прыбраў у кватэры!
Жонка: – А гэты пыл?
Муж:
– Там важныя тэлефонныя нумары.
Жонка:
– А павук у куце?
Муж:
– Не чапай Гошу! Ён ні ў чым не вінаваты.

***

– Любіш мядок! Любі і халадок! – крычалі пчолы, выцягваючы Віні Пуха з бярлогі на снег.

***

Асноўная роля мезенца на назе – упэўніцца, што ўся мэбля ў кватэры на месцы.

***

Я вельмі добра гатую. Асабліва смачна рэжу хлеб.

***

Вось так бывае: паставіш любімую песню на будзільнік – і няма больш любімай песні.

***

– Ну, прывітанне, Барыс!
– Я – Наталля.
– А ў тэлефоне майго мужа ты – Барыс.

***

Вясковы магазін гарэў, але ніхто не спяшаўся яго тушыць. Усе чакалі, пакуль згарыць той самы сшытак.

***

Пайшлі з трохгадовай дачкой правяраць слых.
Доктар шэптам:
– Цукерка.
Дачка шэптам:
– Дзе?

***

Усе скардзяцца, што ў выхадныя трэба прыбіраць, мыць, гатаваць. А мне пашанцавала. На маёй працы няма выхадных.

***

У краму заходзіць мужчына і кажа:
– Дайце мне бутэльку гарэлкі?
Прадавец:
– З сабой?
– Не, без вас.

***

Жонка з чорным поясам па каратэ – гэта моцная сям'я, выхаваныя дзеці, ветлівая свякроў і верны муж.

***

Вырашыла набыць у ларку сок "Я". Кажу:
– "Я", маленькі, апельсін.
Голас з кіёска:
– А я – абрыкос, на поўдні рос.

***

Дачка ўпершыню сама запоўніла школьны дзённік. Прыгожа і акуратна. Да 47 верасня.

***

А ў нашай школе ахоўнікаў не было. Прыбіральшчыца з мокрай анучай усё цудоўна паспявала.

***

Жыў з жонкай і думаў: куды яна грошы траціць? Месяц жыву без жонкі і думаю: адкуль яна іх брала?

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Якую кнігу вы чытаеце цяпер?



**Ганна Ляшчынская, навучэнка:**
– "Белую гвардыю" Булгакава. Пачала чытаць не па школьнай праграме, проста для сябе. Падабаецца, што там шмат цікавых жыццёвых сітуацый.



**Аляксандр Апанасёнак, студэнт:**
– "Вайну і мір" Талстога. Для сябе. Верыце?



**Аляксандр Грак, будаўнік:**
– Цяпер нічога не чытаем. Хіба дзіцяці. Сам раней любіў гістарычныя кніжкі.



**Віялета Лось, сакратар-перакладчык:**
– Захапляюся астралогіяй, разбіраюся ў натальных картах. Таму шмат чытаю па гэтай тэме. З мастацкай літаратуры раней любіла Астроўскага. Але вельмі сумна ўсё ў яго.



**Андрэй Фралоў, музыкант:**
– "Праклятыя і забітыя" Астаф'ева. Ён піша пра вайну такую страшную праўду, што нават творы Быкава на іх фоне выглядаюць "прычасанымі".



**Марта Філістовіч, у дэкрэтным адпачынку:**
– З малым дзіцем часу няма на чытанне. Па неабходнасці чытаю толькі вучэбную інжынерна-тэхналагічную літаратуру, бо вучуся завочна.



**Ганна Садоўская, навучэнка:**
– Параілі пачытаць "Партрэт Дарыяна Грэя" Уальда. Кніжка падабаецца, не шкадую, што ўзялася чытаць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№12 (1195) 23.03.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 286. Падпісана ў друк у 9.00 22.03.2018.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.